# Вясна

Артур ВОЛЬСКІ

Вясна прыбіраецца
                    ў чырвань і квецень.
Вясна
        ў дэманстрацыях
                    крочыць па свеце.
Нястрымнай паводкай,
                    патокам няспынным
Шугае праз межы —
                    з краіны ў краіну.
Яе не ўтрымаць
                    ні пастам, ні кардонам.
Яе не суняць
                    паліцэйскім законам.
Не скуць кайданамі,
                    не кінуць за краты
Вясновыя мары,
                    вясновае свята!
Па вуліцах Лондана,
                    Рыма,
                        Каіра
Праходзіць вясна
                    як ахоўніца міру.
Выходзяць
        кубінцы,
                в'етнамцы,
                        басконцы,
Каб песняй вітаць
                    першамайскае сонца.
А песня імкнецца
                    да Краснае плошчы,
Дзе вецер
        сцягі,
            нібы хвалі,
                    палошча.
Да плошчы,
        адкуль ўся планета
                    відна,
Адкуль
        свой паход
                пачынае вясна.





Брыгадзір комсамольска-маладзёжнай трактарнай брыгады Дамачоўскай МТС Брэсцкай вобласці Насця Пішчук прышла пацікавіцца работай трактарысткі Шацкай МТС Украінскай ССР Каці Пісачук.

Фото А. Дзітлава.

Пролетарыі ўсіх краін, еднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск.

Год выдання II.
№ 5(14).
Май.
1954.

# ПАД ПЕРШАМАЙСКІМІ СЦЯГАМІ

Мы штогод сустракаем Май — свята вясны і маладосці. Сонечны і радасны гэты дзень. Асабліва свеціцца ён хараством сцягоў на вуліцах і плошчах нашай сталіцы. З песнямі тут крочаць калоны працоўных, чымі рукамі пасаджаны гэтыя ліпы, адбудованы шматпавярховыя дамы і гіганты-заводы. Гучыць музыка. Лёгкі ветрык, калышучы барвовыя палотнішчы, прыносіць вясновыя пахі засеяных калгасных палёў.

А па радыё гучаць маршы з Краснай плошчы ў Маскве. Усюды вышлі людзі пад першамайскія сцягі: і ў Калінінградзе, і ва Владзівастоку, і ў Мурманску, і ў Ашхабадзе. Уся краіна, усе прагрэсіўныя народы зямнога шара адзначаюць вялікае рэволюцыйнае свята.

Наш Першамай 1954 года асабліва шчаслівы. Для нас ён — свята мірнага будаўніцтва, свята *заваяваных у працы перамог*. Небывалымі поспехамі сустракае яго Радзіма. Ён прышоў, як яшчэ адно традыцыйнае, урачыстае свята соцыялістычных будняў пятай пяцігодкі. Гэтыя поспехі на фабрыках і заводах, у калгасах і МТС — ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі — дасягнуты дзякуючы нашай роднай Комуністычнай партыі.

Ідуць са сцягамі аўтазаводцы, трактаразаводцы, якія напярэдадні свята паказалі працоўныя подзвігі ў соцспаборніцтве. А колькі тут моладзі! Маладыя рабочыя і калгаснікі, спартсмены, студэнты, — не пералічыць спецыяльнасцей і прафесій, як не злічыць рознакаляровых хусцінак, блузак, рубашак, шапак.

Ленінскі комсамол стаў магутнай арміяй, якая аб'ядноўвае больш за восемнаццаць мільёнаў чалавек. Сваёй самаадданай барацьбой за справу Партыі Ленінскі комсамол сапраўды заваяваў ганаровы аўтарытэт ва ўсёй совецкай моладзі. Як важак, ён карыстаецца заслужанай павагай у рабочых, калгаснікаў і інтэлігенцыі.

Нядаўна адбыўся XII з'езд ВЛКСМ. Ён паказаў найвялікшую згуртаванасць моладзі вакол любімай Комуністычнай партыі, якая ў грозныя дні рэволюцыі стварыла комсамол і, загартоўваючы яго ў бітвах, заўсёды паказвала шлях наперад. Цяпер Партыя і Урад клапоцяцца аб добрабыце народа — клапоцяцца штодзённа, нястомна і няспынна. Цяпер стаіць неадкладная задача — разам з далейшым развіццём цяжкай прамысловасці крута ўзняць за два-тры гады ўсе галіны сельскай гаспадаркі і вытворчасці тавараў народнага спажывання. У вырашэнні гэтай задачы, у барацьбе за далейшы росквіт нашай соцыялістычнай бацькаўшчыны комсамол ідзе ў першых шэрагах.

Горача, з велізарнай радасцю адгукнуліся юнакі і дзяўчаты на заклік партыі паехаць працаваць у Казахстан, Сібір, дзе неабходна асвоіць цалінныя і абложныя землі. З радасцю паехалі туды атрады комсамольцаў Совецкай Беларусі. Здаецца, нядаўна гукнуў развітальны гудок паравоза, а ўжо ў пісьмах нашы землякі паведамляюць, як дружна закіпела работа на новым месцы. Стэп змяніўся непазнавальна, леглі буйныя зерні на ўзараную тлустую глебу, каб летам зашумець багатым ураджаем, комсамольскім ураджаем. Яны пішуць у пісьмах, што плячо к плячу працуюць разам з казахамі, украінцамі, масквічамі. І ў гэтай дружбе — ленінска-сталінскай дружбе — зарука вялікіх поспехаў. Яны пішуць, што збіраюцца спаткацца з перадавікамі сельскай гаспадаркі рэспублікі на Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы...

Маладосць увасабляе самыя смелыя і гарачыя парывы. Гэта пара творчых замыслаў, якія ў нашай краіне ператвараюцца ў рэальную справу дзякуючы бацькоўскаму накіраванню роднай партыі. Тут — і Комсамольск, і велізарныя збудаванні першых пяцігодак, і штурмы паднябесся совецкімі чырвоназорнымі сокаламі, і сусветныя спартыўныя рэкорды.

Сёння — Май совецкай маладосці!

Але не адны мы сустракаем гэтае свята. 1 Мая — дзень міжнароднай салідарнасці працоўных, дзень брацтва рабочых усіх краін.

Святкуюць яго ў краінах народнай дэмакратыі. Магутнымі калонамі ідуць у Пекіне на плошчы Цяньаньмынь працоўныя Кітайскай Народнай Рэспублікі. Па вуліцах Варшавы праходзяць будаўнікі новай Польшчы. Бухарэст. Будапешт. Сафія. Прага. Тірана. Берлін. Мы чуем поступ шматтысячных дэманстрацый у сталіцах краін, дзе працоўныя ўзялі ўладу ў свае рукі і крочаць па шляху да соцыялізма. І там моладзь высока нясе першамайскія сцягі.

Ад дружнага, гучнага спеву свабодалюбівых народаў, ад поспехаў сіл дэмакратыі і прагрэсу шалее капіталістычны свет. Гонка ўзбраенняў не выратоўвае яго ад немінучага крызісу. Там працоўным, калі ўдалося ў гэты дзень прарваць заслоны паліцэйскіх атрадаў, то яны ідуць пад сцягамі прыхільнікаў міру, поўныя цвёрдай рашучасці сарваць злачынныя планы падпальшчыкаў вайны, ворагаў чалавецтва. Юнакі і дзяўчаты Францыі, Італіі выступаюць супраць беспрацоўя, супраць бесчалавечнай эксплуатацыі і іншаземнага рабства. Ні турмы, ні рэпрэсіі не палохаюць іх. Яркім прыкладам для іх, маяком у барацьбе з'яўляецца наш Совецкі Саюз, дзе вольна гучаць першамайскія песні.

...Ідуць па вуліцах нашых калоны будаўнікоў сонечнага жыцця і славяць у песнях Радзіму — вясну чалавецтва. Магутная Совецкая дзяржава на чале народаў свету, паслядоўна праводзячы палітыку міру і дружбы паміж усімі народамі, крочыць да комунізма.

Комуністы і комсамольцы! Будзьце ў першых радах барацьбітоў за далейшы росквіт нашай соцыялістычнай прамысловасці, за круты ўздым сельскай гаспадаркі, за няўхільны рост добрабыту совецкага народа, за пабудову комунізма ў СССР!

Плакат мастака Н. Ватолінай, выпушчаны дзяржаўным выдавецтвам выяўленчага мастацтва.





**XII з'езд ВЛКСМ.** На здымку: у зале пасяджэнняў Вялікага Крэмлёўскага палаца.

Іван ШАМЯКІН

# XII з'езд Ленінскага камсамола

**Нататкі дэлегата**

XII з'езд ВЛКСМ зойме асобае месца ў гісторыі Ленінскага камсамола. Ён праходзіў у незабыўныя для народаў нашай Радзімы дні, калі Камуністычная партыя паставіла вялікую задачу — у бліжэйшыя два-тры гады ў дастатку задаволіць няспынна ўзрастаючыя патрэбнасці насельніцтва ў харчовых прадуктах і прамысловых таварах, калі ў краіне разгарнуўся вялікі патрыятычны рух за выкананне гэтай пачэснай задачы. Верны сын партыі, комсамол, як і заўсёды раней — у гады грамадзянскай вайны і ў час першых пяцігодак, у Вялікай Айчыннай вайне і ў гады пасляваеннага аднаўлення — стаў у першыя рады гэтага патрыятычнага руху. Рашэнні з'езда будуць натхняць восемнаццацімільённы атрад комсамольцаў і комсамолак, усю гераічную савецкую моладзь на новыя працоўныя подзвігі.

Удзел у рабоце з'езда, прысутнасць у Крэмлі, у цудоўным палацы, дзе праходзілі з'езды партыі, сесіі Вярхоўнага Совета СССР, дзе прымалася Совецкая Канстытуцыя, вырашаліся многія і многія пытанні, якія маюць гістарычнае значэнне для нашай Радзімы, — быў радаснай падзеяй у жыцці кожнага з дэлегатаў.

Прыгадваю раніцу першага дня работы з'езда. З якім хваляваннем спяшаліся ўсе мы ў Крэмль! На Краснай плошчы, як заўсёды, нягледзячы на ранні час, было многа людзей. Старэйшыя глядзелі на дэлегатаў з гонарам: вось яна, іх змена, бадзёрая, энергічная, вясёлая! Маладыя — з зайздрасцю: каму не хочацца пабыць у Крэмлі!

I вось ён — старажытны Крэмль, — слава і гонар нашага народа, сэрца Радзімы, маяк чалавецтва! Рубінавыя зоркі на яго вежах асвятляюць для працоўных усяго свету шлях да праўды, шчасця і міру.

Дэлегаты разыходзяцца па Крэмлі з песнямі, жартамі і смехам, як маладыя яго гаспадары.

Ідуць па плітах бруку, кожная з якіх захоўвае сляды гісторыі вялікага народа, спыняюцца перад Цар-звонам, абкружаюць Цар-пушку, разглядаюць выдатныя помнікі старажытнай архітэктуры, саборы і палацы — тварэнне рук і розуму таленавітых рускіх людзей.

Цяжка выказаць пачуцце, якое ахоплівае пры аглядзе Крэмля. Пачуцце гэтае — надзвычай складанае і шматграннае: тут захапленне і гонар за рускі народ, за яго вялікую культуру і радасць за тое, што ты карыстаешся здабыткамі гэтай культуры. Незабыўнае і другое пачуцце, якое апанавала мяне, калі я ўбачыў, як жывая, шумная тысячагалосая рака моладзі цякла па мармуровых усходах Вялікага Крэмлёўскага палаца, запаўняла славутую Георгіеўскую залу, улівалася ў залу пасяджэнняў.

Ішлі лепшыя прадстаўнікі юнага пакалення, імёны якіх вядомы ўсёй краіне: лепшыя шахцёры, сталявары, будаўнікі, майстры высокіх ураджаяў, праслаўленыя жывёлаводы, маладыя дзеячы навукі і мастацтва.

Слухаеш рускую, украінскую, беларускую, грузінскую, казахскую, якуцкую, башкірскую, армянскую і іншыя мовы, бачыш надзвычайную рознастайнасць нацыянальных убранняў — і неяк асабліва наглядна ўяўляеш неабсяжнасць нашай Радзімы, яе вялізныя прасторы, рознастайнасць яе прыродных умоў, нацыянальных культур і ў той-жа час сэрцам адчуваеш, ды не толькі адчуваеш, але і бачыш на кожным кроку, — еднасць і згуртаванасць совецкіх народаў, іх непарушную дружбу. На з'ездзе комсамола дружба гэтая праяўлялася надзвычай яскрава. Сустракаліся старыя знаёмыя, якія прыехалі з розных краёў і рэспублік. Завязваліся новыя знаёмствы, новыя сяброўскія адносіны, па-юнацку моцныя і шчырыя.

У выніку гэтых знаёмстваў нараджаліся новыя патрыятычныя справы і пачынанні, як, напрыклад, спаборніцтва паміж механізатарамі Казахстана і Алтая.

Такое сяброўства, такія сапраўды братэрскія пачуцці могуць быць толькі ў людзей, якія з'едналы ў адзін вялікі і дружны калектыў адзінствам мэты, імкненняў, адзінствам светапогляду. Адкуль-бы ні прыехалі дэлегаты, прадстаўнікамі якой-бы часткі моладзі яны ні былі-б — рабочай, сялянскай, студэнцкай, салдацкай — яны прывезлі з сабой у Крэмль гарачую любоў усёй моладзі да Комуністычнай партыі, удзячнасць Партыі і Совецкаму ўраду за светлае сёння і яшчэ больш светлае і шчаслівае, мірнае заўтра.

Гэтая любоў, гэтая ўдзячнасць вылілісь ў магутную, хвалюючую авацыю, калі ў ложах прэзідыума з'яўляюцца таварышы Маленкоў, Молатаў, Варашылаў, Булганін, Мікаян, Сабураў, Первухін, Суслаў, Паспелаў, Шаталін. Ад імя шчаслівага юнага пакалення краіны соцыялізма віталі дэлегаты кіраўнікоў Комуністычнай партыі і Совецкага ўрада.

Партыя стварыла, выхавала і загартавала Ленінскі комсамол, свой вялікі і надзейны рэзерв, партыя штодзённа накіроўвае работу комсамола, клапоціцца аб совецкай моладзі, аб яе выхаванні, абкружае моладзь увагай і любоўю.

Кожнае рашэнне партыі, кожнае ўказанне яе Цэнтральнага Камітэта з'яўляецца законам для комсамола, баявой праграмай усёй яго дзейнасці па выхаванню актыўных будаўнікоў комунізма. Вось чаму з выключнай увагай і радасцю слухалі дэлегаты прывітанне ЦК КПСС, якое прачытаў сакратар ЦК таварыш Суслаў.

Высока ацаніўшы дзейнасць комсамола, партыя паставіла перад комсамольцамі, перад усёй моладдзю новыя задачы, што вынікаюць з тых гістарычных задач, якія рашае зараз увесь совецкі народ.

Прывітанне ЦК КПСС дало кірунак рабоце з'езда, вызначыла высокі ўзровень абмеркавання ўсіх пытанняў жыцця і дзейнасці комсамольскіх арганізацый.

Вялікія заслугі Ленінскага комсамола перад партыяй і совецкім народам, бясспрэчныя яго поспехі ў справе выхавання маладога пакалення! Комсамольцы заўсёды першыя адгукаліся на заклікі партыі, выступалі энтузіястамі вялікіх патрыятычных пачынанняў. Даволі прыгадаць, што к дню адкрыцця з'езда 400 тысяч юнакоў і дзяўчат у адказ на заклік партыі выказалі жаданне паехаць асвойваць цалінныя і абложныя землі. Ды ці мала і другіх слаўных спраў у Ленінскага комсамола!

ЦК КПСС у сваім прывітанні заклікаў комсамольскія органы «рашуча перабудаваць сваю работу, выгнаць з практыкі кіраўніцтва комсамольскімі арганізацыямі канцылярска-бюракратычныя метады, больш займацца канкрэтнай арганізатарскай і выхаваўчай работай сярод моладзі». На гэтае ўказанне партыі пасланцы комсамола адказалі прынцыповай крытыкай усіх недахопаў сваёй работы. Сапраўды, надзвычай высокі ўзровень крытыкі і самакрытыкі—галоўнае ў рабоце з'езда. За бюракратычна-канцылярскія метады кіраўніцтва дэлегаты крытыкавалі ЦК ВЛКСМ і яго сакратароў, а таксама многія абкомы комсамола і ЦК саюзных рэспублік. Комсамольскі кіраўнік

павінен штодзённа быць сярод моладзі, а не замыкацца ў сваім кабінеце — у цэнтры ўсёй работы камсамольскіх органаў павінны быць жывыя людзі, пастаянны клопат аб іх быце, працы, вучобе, аб іх інтарэсах і запатрабаваннях.

Сур'ёзная размова вялася аб недахопах у выхаванні моладзі. Ёсць у нас яшчэ факты пранікнення ў свядомасць асобных прадстаўнікоў моладзі элементаў варожай ідэалогіі; некаторая частка моладзі, асабліва ў вёсках, знаходзіцца ў палоне рэлігійных забабонаў, нярэдкія выпадкі амаральных учынкаў — п'янства, лаянкі, нетаварыскіх адносін да жанчыны з боку асобных маладых людзей і нават камсамольцаў. На вуліцах вялікіх гарадоў можна сустрэць яшчэ «стыляг» — гэтых марнатраўцаў у модным убранні, якія імкнуцца занесці ў асяроддзе моладзі звычкі і паводзіны буржуазнага грамадства. Камсамол павінен павесці рашучую барацьбу супраць гэтай плесні!

Камсамол павінен больш надаваць увагі выхаванню савецкай моладзі ў духу вернага служэння сваёй Радзіме, адданасці Камуністычнай партыі, у духу інтэрнацыяналізма і дружбы народаў, выхоўваць у моладзі найлепшыя якасці савецкага чалавека — любоў да працы, мужнасць і бясстрашша, веру ў перамогу нашай справы, сумленнасць, шчырасць, гатоўнасць пераадолець любыя цяжкасці.

Многа гаварылі дэлегаты аб тых недахопах, якія ёсць яшчэ ў нас у наладжванні быту маладых рабочых, асабліва маладых будаўнікоў, у арганізацыі вучобы рабочай і калгаснай моладзі. У кароткіх нататках немагчыма нават і пералічыць усе тыя важныя пытанні, якія былі ўзняты на з'ездзе пры абмеркаванні справаздачнага даклада ЦК ВЛКСМ.

Жывыя спрэчкі і моцную крытыку і самакрытыку выклікала абмеркаванне работы піянерскай арганізацыі імя В. І. Леніна. Камсамольскія работнікі, піянерважатыя і настаўнікі справядліва ўказвалі, што ў рабоце піянерскіх дружын і атрадаў шмат фармалізма, што ў многіх школах педагогі і безыніцыятыўныя піянерважатыя глушаць самадзейнасць дзяцей — аснову асноў піянерскай работы. Яны ўводзяць у работу з дзецьмі метады, злоўжыванне якімі асуджаецца партыяй нават у рабоце з дарослымі: шматлікія зборы, пасяджэнні, сумныя даклады. Ад такіх дакладаў і лекцый у дзяцей знікае жаданне ўдзельнічаць у грамадскай рабоце. Справядліва аб гэтым заўважыў адзін з дэлегатаў:

— Нам, камсамольскім і піянерскім работнікам, трэба душой памаладзець, таму што бюракратаў піянеры адразу раскусваюць і не ідуць да іх!

У разгорнутай пастанове з'езд абавязаў усе камсамольскія камітэты рашуча палепшыць работу піянерскіх арганізацый і гэтым самым павысіць іх ролю ў выхаванні дзяцей; выжыць канчаткова бюракратызм у кіраўніцтве піянерскай работай; развіваць самадзейнасць школьнікаў, накіраваўшы яе на барацьбу з нізкай паспяховасцю, на прыцягненне вучняў да актыўнага ўдзелу ў грамадскай дзейнасці і грамадска-карыснай працы, на палепшанне фізічнага выхавання дзяцей.



**XII з'езд ВЛКСМ.** Прадстаўнікі Нова-дэмакратычнага саюза моладзі Кітая прыпадносяць сцяг і падарункі Усесаюзнаму Ленінскаму Камуністычнаму Саюзу Моладзі.



**Дэлегаты накіроўваюцца на пасяджэнне.**
Фота В. Савасцянава, В. Масцюкова і В. Кашавога. (Фотахроніка ТАСС.)

Абмяркоўваючы справаздачны даклад ЦК ВЛКСМ і работу піянерскай арганізацыі, многія дэлегаты прад'явілі сур'ёзныя патрабаванні творчым арганізацыям і, безумоўна, у першую чаргу — Саюзу савецкіх пісьменнікаў.

Але гэта была справядлівая крытыка: амаль у кожным такім выступленні адчуваўся гонар за поспехі нашай, савецкай літаратуры і боль за яе недахопы, адчуваўся гаспадарскі клопат аб развіцці літаратуры. Зусім справядліва ўказвалася, што пісьменнікі адстаюць ад жыцця і часта праходзяць міма гераічных спраў савецкай моладзі, а калі і адгукаюцца на іх, то, у большасці, творы гэтыя — скараспелыя, павярхоўныя, без глыбокага пранікнення ў сутнасць жыццёвых з'яў і чалавечых характараў. За апошнія гады ў нас не з'явілася твораў, якія па сваёй сіле ўздзеяння на маладыя сэрцы і розум і па свайму выхаваўчаму значэнню набліжаліся-б да такіх кніг, як «Маладая гвардыя», «Як гартавалася сталь», «Аповесць аб сапраўдным чалавеку» і іншых. Сур'ёзна крытыкавалі на з'ездзе і адставанне дзіцячай літаратуры, бесканфліктнасць твораў для дзяцей, іх надакучлівую дыдактычнасць і аднастайнасць.

Дэлегаты заклікалі пісьменнікаў наблізіцца да жыцця, паехаць следам за маладымі энтузіястамі на цалінныя і абложныя землі Казахстана і Сібіры, часцей заглядваць у калгасы, саўгасы, МТС, каб жыць адным жыццём, аднымі імкненнямі з тымі, хто сваёй працай ажыццяўляе велічныя рашэнні партыі.

З'езд абмеркаваў пытанне аб зменах у Статуце ВЛКСМ. Статут камсамола, зацверджаны XII з'ездам, адлюстроўвае тыя вялікія змены, якія адбываліся ў нашай краіне і камсамоле за перыяд ад XI з'езда ВЛКСМ. У Статуце больш поўна і дакладна вызначана галоўная задача камсамола, ва ўступнай частцы яго запісана: «Камсамол заклікаиы аказваць дапамогу Камуністычнай партыі Савецкага Саюза ў ажыццяўленні яе галоўных задач — пабудаваць камуністычнае грамадства шляхам паступовага пераходу ад сацыялізма да камунізма, няспынна павышаць матэрыяльны і культурны ўзровень грамадства, выхоўваць членаў грамадства ў духу інтэрнацыяналізма і ўстанаўлення брацкіх сувязей з працоўнымі ўсіх краін, усімі сіламі ўмацоўваць актыўную абарону Савецкай Радзімы ад агрэсіўных дзеянняў яе ворагаў».

Вялікая ўвага надаецца ў Статуце ВЛКСМ павышэнню звання члена Ленінскага камсамола, развіццю крытыкі і самакрытыкі, цвёрдаму выкананню прынцыпаў унутрыкамсамольскай дэмакратыі. У Статуце больш канкрэтызаваны і ўдакладнены задачы пярвічных камсамольскіх арганізацый, райкомаў, гаркомаў, абкомаў камсамола і ЦК камсамола саюзных рэспублік. Статут ВЛКСМ дапаможа падняць узровень камсамольскай работы ў адпаведнасці з новымі задачамі, умацуе арганізацыі ВЛКСМ, павысіць актыўнасць і ідэйную загартоўку мільёнаў камсамольцаў і камсамолак.

Нельга не адзначыць яшчэ адну цудоўную асаблівасць XII з'езда ВЛКСМ: у рабоце яго ўдзельнічалі прадстаўнікі маладзёжных арганізацый 34 краін свету, а таксама прадстаўнікі Сусветнай федэрацыі дэмакратычнай моладзі і Міжнароднага саюза студэнтаў. Сардэчна і шчыра сустракалі дэлегаты з'езда замежных гасцей — прадстаўнікоў моладзі краін народнай дэмакратыі і краін, дзе яшчэ пануе капітал. У перапынках паміж пасяджэннямі ў Георгіеўскай зале, на двары ў Крэмлі дэлегаты абкружалі гасцей, знаёміліся, мяняліся аўтографамі, кнігамі. Ніколі не забудуцца хвіліны, калі на трыбуну вышаў сакратар ЦК Новадэмакратычнага Саюза моладзі Кітая таварыш Лю Даошэн. Некалькі хвілін не змаўкала бурная авацыя, гучалі крыкі «ура». Помню, як збоку ад мяне адзін з украінскіх дэлегатаў у час гэтай авацыі з захапленнем сказаў:

— Які друг у нас, хлопцы! Пяцісотмільённы!

Прадстаўніка гэтага вялікага і вернага друга з выключнай цеплынёй і шчырасцю віталі дэлегаты з'езда. Таварыш Лю Дао-шэн адказаў у сваім прывітальным выступленні такімі-ж гарачымі словамі дружбы і ўдзячнасці савецкаму народу і яго слаўнай моладзі.

— Кітайскі народ і кітайская моладзь, — сказаў ён, — вельмі даражаць гэтай цудоўнай дружбай. Мы глыбока верым, што дружба паміж Кітаем і Савецкім Саюзам будзе вечнай.

Аб вечнай дружбе з Савецкім Саюзам, аб бескарыслівай дапамозе савецкага народа гаварылі прадстаўнікі моладзі Карэйскай Народна-Дэмакратычнай Рэспублікі, Польшчы, Чэхаславакіі, Румыніі, Венгрыі, Балгарыі, Албаніі, Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі.

Аб мужнай барацьбе моладзі супраць падпальшчыкаў новай вайны, за мір і нацыянальную незалежнасць расказвалі прадстаўнікі перадавой моладзі капіталістычных і каланіяльных краін. Прыклад савецкага народа, савецкай моладзі, яе шчаслівае жыццё натхняюць моладзь свету на гэтую свяшчэнную барацьбу.

Любоў і адданасць краіне сацыялізма стала вялікай рухаючай сілай у развіцці барацьбы за мір, за нацыянальную незалежнасць, супраць амерыканскіх імперыялістаў.

Безумоўна, што XII з'езд ВЛКСМ, які з такой яскравасцю прадэманстраваў няспынна ўзрастаючыя і мацнеючыя міжнародныя сувязі савецкай моладзі, яе гарачае імкненне да міру і дружбы паміж народамі, зробіць вялікі ўплыў на разгортванне барацьбы моладзі ўсіх краін за мір, свабоду і шчасце.

А. АСІПЕНКА

# Суседзі

Нарыс

У маі народы Совецкага Саюза адзначаюць трохсотгоддзе з дня ўз'еднання Украіны з Расіяй. Гэта гістарычная падзея, якая азнаменавала сабой новую ступень у развіцці трох братніх народаў — рускага, украінскага і беларускага, — успрыймаецца з асаблівай радасцю зараз, калі ў дружнай сям'і народаў Совецкага Саюза агульнымі намаганнямі мільёнаў совецкіх людзей будуецца камуністычнае грамадства.

Спрадвечная, моцная дружба звязвае рускі, украінскі і беларускі народы. У гадзіны ліхалецця руская ішлі на дапамогу беларусам і украінцам, а украінцы і беларусы дапамагалі Маскве ў барацьбе супраць яе ворагаў.

Але асабліва ўмацавалася братняя дружба паміж нашымі народамі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. Загартаваная ў агні трох рэвалюцый, у полымі грамадзянскай і Айчыннай вайны, дружба рускага, украінскага і беларускага народаў стала настолькі моцнай і трывалай, што ёй не страшны ніякія прошукі і правакацыі цёмных сіл імперыялістычнай рэакцыі.

У поўднёва-заходнім кутку нашай рэспублікі размешчаны Дамачоўскі раён Брэсцкай вобласці. Ён мяжуецца з Шацкім раёнам Украінскай ССР. Раёны гэтыя даўно спаборнічаюць паміж сабой, аказваюць адзін другому таварыскую дапамогу. Поспехі украінцаў з радасцю ўспрымаюцца беларусамі. Украінскія калгаснікі ганарацца дасягненнямі беларускіх хлебаробаў. Няўдачы перажываюцца аднолькава балюча, у каго-б яны ні былі.

У дні падрыхтоўкі да трохсотгоддзя ўз'еднання Украіны з Расіяй у двух суседніх калгасах — беларускім «Ленінскі шлях» і украінскім імя Варашылава — адбыліся на першы погляд нібы нязначныя падзеі, але яны глыбока раскрываюць сардэчную дружбу беларусаў і украінцаў, іх агульныя намаганні ў барацьбе за пабудову комунізма.

## Важная справа

Атуленая старадаўнімі ліпамі, спіць вёска Дубок. Напрацаваўшыся за дзень, павячэраўшы, леглі адпачываць калгаснікі. Вясновая ноч не такая ўжо вялікая, а заўтра-ж ледзь золак трэба ісці на работу, бо настаў той час, пра які гавораць: адзін дзень год корміць.

Толькі на самым ускрайку вёскі, там, дзе шырокая калгасная вуліца ўпіраецца ў цёмную сцяну лесу, мільгаціць у беспрагляднай цемры адзінокі агеньчык.

У невялічкім пакоі, з шырокімі ля сцен лаўкамі і доўгім, запырсканым чарнілам сталом, сабралася шмат хлопцаў і дзяўчат. Многім нехапіла месца, і яны стаяць, абапёршыся аб сцяну, але ніхто не ідзе дамоў: разглядаецца вельмі цікавае пытанне.

У лямпе канчаецца газа, пачынае капціць кнот, але моладзь не зважае на такую дробязь. Як толькі хто пачынае гаварыць, у пакоі ўсталёўваецца ўрачыстая цішыня. Затое пасля кожнага выступлення пачынаюць гаварыць усе адразу, спрачаюцца, пакуль старшыня прэзідыума, круглатварая бялявая дзяўчына, не пастукае па стале алоўкам.

Пытанне, якое разглядаецца сёння на сходзе, закранае чэсць і гонар не толькі кожнага камсамольца, але і ўсёй комсамольскай арганізацыі, усяго калгаса. Таму і не дзіва, што ў кожнага ёсць свая думка, якая здаецца самай найлепшай, самай правільнай. І спрэчкі не спыняюцца.

Пачалося-ж усё з таго, што некалькі дзён назад звеннявая гароднягa звяна Анастасія Якаўлеўна Булава і член звяна Ганна Галалюк схадзілі ў суседні калгас імя Варашылава. Можа гэты выпадак і не выклікаў-бы гарачых спрэчак, калі-б калгас імя Варашылава быў у іхнім раёне або вобласці. А то-ж калгас гэты размешчаны на Украіне, у Шацкім раёне, з якім даўно спаборнічае Дамачоўскі раён. Не адзін раз прыязджалі ў Дамачова украінцы, каб праверыць вынікі спаборніцтва, не адзін раз ездзілі беларусы ў Шацк.

Як ідзе спаборніцтва, хто перамагае, — такое пытанне хвалюе не толькі кіраўнікоў раёна і калгаса, але ўсіх калгаснікаў. Таму і няма нічога дзіўнага, што дзве калгасніцы пайшлі да сваіх суседзяў, каб асабіста ўпэўніцца, як там ідуць справы.

## Шлях на Украіну

Стаяў ясны, цёплы дзень, адзін з тых дзён, па якіх відно, што нарэшце настала вясна. Адразу-ж пасля снедання, як толькі лёгкі поўднёвы ветрык разагнаў шызы туман, маладзёжнае гароднае звяно Анастасіі Булавы выйшла на свой участак. Работа прадстаяла невялікая — трэба было разраўняць зямлю на тых месцах, дзе летась рабілі капцы, сабраць салому, каб заўтра можна было вазіць гной. Дзяўчаты працавалі дружна, спорна, хоць гэта ніколькі не перашкаджала ім абмяркоўваць свае дзявочыя справы. Гаварылі пра абноўкі да Першага мая, пра вечарынкі і, вядома, пра хлопцаў. З-за іх ніяк не можа замацавацца сталы склад звяна. Вось і сёлета выдалі замуж двух лепшых дзяўчат-гародніц: адну ў беларускую вёску Рудня, другую, Ганулю Бурачок, на Украіну, у вёску Хрыпск. Прыйшлося папаўняць звяно за кошт навенькіх. Ды і ці доўга прабудзе ў звяне кожная з іх! Дзяўчаты хоць куды: працавітыя, дужыя, да таго яшчэ і прыгожыя.

— І там-жа вопытныя гародніцы патрэбны, — гаварыла звеннявая, — а ў нас старанных дзяўчат многа. Цэлая армія расце.

— Вось-жа і крыўдна, цётка Насця, — адгукнулася Ганна Галалюк, — нашых дзяўчат там заціраюць. Вунь Ганула чатыры гады на гародзе працавала, а ў Хрыпску ёй работы няма. Хіба гэта парадак. Я, цётка Насця, проста забаранілa-б нашым замуж выходзіць. Няхай лепш да сябе, у прымакі, бяруць хлопцаў, а то толькі кваліфікацыю губляюць.

— Замуж, дзяўчаткі, выходзьце. А вось тое, што вы расказалі, сапраўды дрэнна. І чаму там так адносяцца да вопытных кадраў? Няўжо кіраўніцтва калгаса не разумее, што наша Ганула проста скарб для іх?

Дзяўчаты загаманілі наперабой.

— Старшыня там новы.

— На буксір іх трэба ўзяць!

— Возьмеш іх, яны-ж у другой рэспубліцы!

— Ну і што-ж, возьмем...

Анастасія Якаўлеўна ледзь уціхамірыла дзяўчат.

— Цішэй вы, сарокі-белабокі! Давайце ладам усё абмяркуем. У мяне такая ёсць думка: трэба схадзіць у Хрыпск і выклікаць іх звяно на спаборніцтва, а заадно і наконт нашай Ганулі пагаварыць. Згода?

— Згода. Правільна. На буксір іх... — зноў загаманілі дзяўчаты.

— Каму даручыце гэтую справу?

— Вам, цётка Насця.

— Няхай Ганна таксама ідзе. Яна на язык вострая, спуску не дасць.

Ганна Галалюк, чарнавалосая, чарнавокая, з энергічным валявым тварам дзяўчына, пачала аднеквацца. Справа сур'ёзная, можа не справіцца яна?..

— Чаго там, справішся! Ідзі, раз выбралі...

І вось яны ідуць па сцяжынцы, берагам невялікай рэчкі. Сцежка тая добра ўтаптана, відаць, і ўлетку і зімой па ёй многа ходзіць народу. І гэта так, бо калі пяройдзеш з беларускай вёскі Дубок ва украінскую вёску Хрыпск, дык не заўважыш, што перайшоў



**У гасцях у калгасе імя Варашылава.** На здымку (злева направа): **прычэпшчык Іван Гарбарук, трактарыстка Шацкай МТС Каця Пісачук, брыгадзір трактарнай брыгады Дамачоўскай МТС Насця Пішчук, старшыня калгаса імя Варашылава комсамолец Косця Веячук, старшыня Хрыпскага сельсовета Марыя Гарун.**

мяжу паміж рэспублікамі: у мове украінцаў, якія пражываюць у Хрыпску, вельмі многа беларускіх слоў, як шмат украінскіх слоў у жыхароў Дубка. Ды і няма нічога дзіўнага. Як кажуць у Хрыпску, палова жанок там — беларускі. Нямала і дзяўчат з Украіны выйшла замуж у Дубок. Дубоцкая моладзь часта ходзіць на вечарынкі ў Хрыпск, і адтуль завітваюць на гулянку ў Дубок парубкі і дзяўчаты.

Некалькі год назад дубоцкія дзяўчаты прывезлі аднекуль з-пад Высокага прыгожы ўзор саматканага дывана — радна, як называюць яго тут. Летась пра гэта даведалася Надзея Тучык з Хрыпска. Зняла ўзор, зрабіла дыван і на раённай выстаўцы народнай творчасці заняла другое месца. Бываюць і іншыя выпадкі. Нядаўна ў трактары выплавіліся падшыпнікі. Ад Хрыпска да Шацка без малога 35 кіламетраў, а да Дамачова няма і 15. А вясновы час не чакае! На веласіпедзе трактарыст паехаў у Дамачоўскую МТС, і праз нейкія паўтары гадзіны трактар зноў працаваў на украінскай зямлі.

Ды і ці мала такіх фактаў глыбокіх брацкіх сувязей, таварыскай дапамогі паміж беларускімі і украінскімі калгаснікамі! Таму і не зарастае шлях паміж двума калгасамі — імя Варашылава і «Ленінскі шлях»...

Як толькі Анастасія Булава і Ганна Галалюк зайшлі ў канцылярыю калгаса, там сабралася нямала калгаснікаў: мусіць, кожны адчуў, што на гэты раз дубоцкія жанчыны прышлі не проста ў госці, а па важнай справе. Пытацца было няёмка, таму пачыналі здалёк: жартавалі, распытвалі пра работу і непрыкметна неяк дайшлі да галоўнага.

— Што-ж вы нашых беларусак не шануеце?.. — нібы ў жарт запыталася Ганна Галалюк.— Мы думалі, вы нашу Ганулю загрузіце работай, аж ёй і справы не знаходзіцца! Калі што, дык можам забраць яе з мужам да сябе. У нас для ўсіх работа знойдзецца.

Хрыпскія не зразумелі закіду.

— Пакуль работы мала, але хутка будзе многа. А наконт ланка (так тут называюць звяно), дык не ведаем і ці ёсць рацыя ствараць яго. Думаем толькі адзін гектар гародніны сеяць. Дык з такім гародам непрацаздольныя справяцца.

— Пайшлі, Ганна! — прапанавала Анастасія Булава. — Відаць, рабіць нам няма чаго. У нас невялікая брыгада і то пяць гектараў гародніны сее, а тут цэлы калгас — адзін гектар. Якія-ж вы гаспадары, калі такую прыбытковую галіну занядбалі! А мы думалі, у вас тут не адно звяно, а некалькі, хацелі падвучыцца, ды заадно і дагавор аб социялістычным спаборніцтве заключыць. Бывайце, ды толькі не на доўга. Чакайце гасцей.

— Пасядзелі-б яшчэ...

— Часу няма, — адказалі госці. І пайшлі.

А ў канцылярыі калгаса пачаліся гарачыя спрэчкі.

— Перастрайвацца трэба, — гаварылі украінскія калгаснікі.




Загадчык Хрыпскага клуба Іван Саванюк.

### Дружба трактарыстак

За лесам гудзеў трактар. Брыгадзір маладзёжнай брыгады, дэпутат Вярхоўнага Совета БССР Насця Пішчук, па яго гуку адразу здагадалася, што працуе зараз не Дуся Астапук, а Мікола Каранчук. Неяк сёлета не ладзіліся справы. У Рудні прышлося пераапрацоўваць сем гектараў пасеву, тут нядаўна быў выведзены са строю культыватар. Калгас часта не выконвае сваіх абавязацельстваў. А здавалася, усё было прадугледжана да дробязей, падабраны ў брыгады лепшыя людзі. Вось і на трактары № 16 працуюць Дуся Астапук і Мікола Каранчук. Старэйшым трактарыстам паставілі Міколу, і, здаецца, зрабілі памылку. Хлопец хоць і чацвёрты год працуе, а да трактара адносіцца абыякава, ды і за якасцю не вельмі сочыць. Іншая справа — Дуся. Ціхая, сціплая, яна сур'ёзна ставіцца да сваёй работы. За год Дуся набыла яшчэ дзве спецыяльнасці: камбайнера і ільноцерабільшчыцы. Калгаснікі да яе адносяцца з павагай.

У гэты час поўднёвы вецер данёс да слыху роўнамернае гудзенне трактара. За лесам, на украінскай зямлі, гудзе магутны «ДТ». А хто-ж сёлета там працуе? Можа хто знаёмы? У мінулым годзе на сустрэчы двух раёнаў Насцю знаёмілі з многімі трактарыстамі Шацкага раёна. Тады дамаўляліся трымаць сувязь, прыязджаць адзін да аднаго ў госці. Да восені дружба была моцнай, а калі паставілі трактары на рамонт, сувязі аслаблі. І вось цяпер Насця падумала аб тым, што неабходна аднавіць гэтую дружбу. У той-жа дзень яна пагаварыла з трактарыстамі. Яны ўхвалілі яе ідэю. Назаўтра, перадаўшы справы свайму памочніку, Насця той-жа сцяжынкай, па якой нядаўна хадзілі на Украіну гародніцы, накіравалася ў Хрыпск.

... Незнаёмая трактарыстка, чарнявая, дужая, неяк асабліва прыгожа вяла магутны гусенічны трактар па полі.

Старшыня калгаса (або, як тут завуць, галава) Косця Венячук і старшыня сельсовета Марыя Гарун з пахвалой адазваліся аб трактарыстцы. Старанная, працавітая, нормы перавыконвае і за якасцю добра сочыць. Прозвішча яе Пісачук, завуць Кацярынай. За некалькі дзён Каця са сваім напарнікам Сцяпанам Шэўчуком правяла культывацыю і засеяла каля 100 гектараў глебы.

Трактар, фыркаючы і злосна равучы, зрабіў круты паварот. Насця з хвіліну наглядала, як прыгожа і спрытна паварочвае трактарыстка трактар, потым, відаць, не вытрымала і на хаду залезла ў кабіну. Дзяўчаты ехалі і аб нечым шчыра размаўлялі. Адзін, другі круг, і здавалася, што яны ўжо забылі пра тых, хто стаіць на полі. Толькі тады, калі ў сеялках закончыўся авёс, Кацярына спыніла трактар. Насця саскочыла на пульхную, мяккую зямлю. Далоні яе рук былі ў мазуце: усё-ж не вытрымала, хоць крышку, але правяла трактар.

— Добры трактар? — запытаўся галава калгаса.

— Трактар добры, а вось авёс, таварыш галава, не пратручаны. Хто-ж гэта вам даў такое права сеяць непратручаным аўсом?

— Ды гэта-ж рэшткі, канчаем сеяць... Нехапае чым пратручваць, — апраўдваўся галава.

Насцю цікавіла ўсё: і арганізацыя працы ў трактарнай брыгадзе, і догляд, і барацьба за план, якасць і эканомію. Урэшце яна сказала:

— Каб дружба наша мацнела, давайце будзем спаборнічаць! Ад імя нашых дзяўчат выклікаю вас на спаборніцтва.

— Згода, — адказала Каця.

Яны пацiснулі адна другой рукі. Але перад тым, як пайсці дадому, Насця яшчэ раз аб'ехала круг на трактары.

— Чакаем цябе, Каця, да нас у госці, — сказала яна на развітанне.

— І ў мяне ёсць да вас просьба, — звярнуўся галава калгаса да Насці. — Перадайце кіраўніцтву вашага калгаса, што ў нас нарадзілася тут думка: нядрэнна было-б спаборнічаць не толькі асобным звенням і брыгадам, але і нашым калгасам.

### Вечар у Хрыпску

Вось чаму да позняга зацягнуўся ў Дубку камсамольскі сход. Моладзь вырашыла азнаменаваць выклік на спаборніцтва не толькі афіцыйным візітам ва украінскі калгас, але арганізаваць вечар дружбы моладзі беларускага і украінскага калгасаў.



Сцэна са спектакля «Паўлінка», які быў пастаўлены моладдзю вёскі Дубок у сяле Хрыпск.
Фото А. Дзітлава.

Дапамагчы ў арганізацыі спаборніцтва ў калгас прыехаў сакратар райкома комсамола Фёдараў. Было вырашана на вечары ў Хрыпску паставіць «Паўлінку». І моладзь пачала рыхтавацца. Ішла рэпетыцыя, рыхтаваўся рэквізіт.

Не драмалі і ў Хрыпску. Загадчык клуба Іван Саванюк падрыхтаваў вітрыну, прысвечаную трохсотгоддзю ўз'еднання Украіны з Расіяй. Калгасны хор правёў некалькі спевак. Знайшлася работа і хрыпскім піонерам: яны пасыпалі сцежку да клуба пяском і абсадзілі яе хвоямі.

Вечар выдаўся цёплы і вельмі цёмны, якімі звычайна бываюць бязмесячныя вясновыя вечары. Драмгуртжоўцы і маладыя калгаснікі, члены дэлегацыі, спяшаліся — спазніцца нельга. А тут, як на тое зло, затрымалася машына. Але вось цемру прарэзалі два яркія промені, яны слізганулі па дрэвах, па дахах дамоў. Гэта вёў свой грузавік шафёр Уладзімір Пішчук. І як толькі, зарыпеўшы тармазамі, спынілася машына, у яе кузаў палезлі хлопцы і дзяўчаты. Смех, жарты, але праз нейкую хвіліну ўсе расселіся па месцах, многім давялося стаяць. І тады над прысадамі грымнула песня, маладая, задорная. З песняй і пад'ехалі дубоцкія дэлегаты да клуба. А там таксама поўна народу. Хто-ж усседзіць дома ў такі вечар, калі ў госці прыехалі суседзі-беларусы.

— Молодіжний вечір, присвячений 300-риччя воз'єднання України з Росією дозвольте відкрити, — на чыстай украінскай мове абвяшчае Іван Саванюк. — До нас на цей вечір прибули дорогі гості з колгоспу «Ленінский путь» Домачівського району.

У зале грымяць апладысменты. Выступае сакратар Шацкага райкома комсамола Малання Цітарэнка. Яна расказвае моладзі аб значэнні гістарычнай даты ўз'еднання Украіны з Расіяй, заклікае моладзь працаваць на славу нашай Радзімы.

Затым у нацыянальных касцюмах выступае хор сяла Хрыпска.

Але вось на сцэне з'яўляецца сакратар партыйнай арганізацыі калгаса «Ленінскі шлях» А. Булава. Яна гаворыць аб дружбе паміж двума калгасамі, аб тым, што дружба гэтая прымушае гаварыць праўду ў вочы, а між тым у калгасе імя Варашылава не ўсё ў парадку. А. Булава ўспамінае пра свой нядаўні прыход у калгас і ў заключэнне выклікае калгас імя Варашылава на соцыялістычнае спаборніцтва.

З адказным словам выступае старшыня украінскага калгаса комсамолец Косця Венячук.

— Прымаем выклік? — пытаецца ён у сваіх людзей.

З залы адзіным дыханнем сцвярджальны выгук:

— Прымаем!

— Ліквідуем недахопы, зробім калгас багатым.

У знак згоды шуміць, пляскае ў далоні зала.

А як толькі закончылася афіцыйная частка, драмгуртжоўцы пачалі спектакль «Паўлінка».

Пасля вечара праводзіць дубоцкіх калгаснікаў выйшла ўсё сяло.

— Шчаслiва працюваты!

Над машынай раптам загучала беларуская развітальная песня «Бывайце здаровы, жывіце багата». Яе падхапілі і украінцы.

— Бывайце, таварышы, здаровы! А хутка прыедзем правяраць дагавор. Хто-ж пераможа?..

# ДЗЕЛЯ БУДУЧЫХ ПОДЗВІГАЎ

Цягнік імчыцца на ўсход. Злёгку пастукваюць на стыках рэек вагоны. Каля акна стаіць дзяўчына са светлымі кудзеркамі валасоў і пільна ўглядаецца ў новыя для яе малюнкі. Цягнік падыходзіць да сопкі, якая скрозь пакрыта густым хвойнікам. Сівыя пасмы дыму рассейваюцца каля вершалін стромкіх сосен, з-за якіх паказаўся ўжо барвовы дыск сонца.

У вагоне яшчэ спяць. Але вось да яе падышоў юнак. Яны знаёмыя, хоць пазнаёміліся і нядаўна — на вечары, прысвечаным ад'езду моладзі Мінска ў Казахстан.

— Вы ў Сярэдняй Азіі ніколі не былі? — спытала Тамара Кузняцова свайго спадарожніка Валодзю Прылуцкага.

— Не даводзілася, — прызнаўся юнак.

— А я Сярэднюю Азію даўно ведаю, — сказала з усмешкаю дзяўчына.

— Адкуль?

— У школе геаграфію вучыла. Еўропа ад Азіі аддзяляецца Уральскім хрыбтом, ракой Урал... Для Казахстанскіх стэпаў характэрныя снежныя віхуры і сухавеі. У стэпах водзяцца грызуны — суслікі, суркі і тушканчыкі...

— Пра суслікаў і тушканчыкаў я таксама вучыў, — сказаў Валодзя. — Яшчэ ў пятым класе..

Цягнік падышоў да Уральскіх гор. На крутым беразе Урала — помнік легендарнаму герою грамадзянскай вайны Чапаеву. Уральская прырода паўставала перад вачыма моладзі ва ўсёй сваёй веліччы.

Ззаду застаўся Златауст. На адным баку абеліска, складзенага з граніту, надпіс: «Еўропа», на другім: «Азія»...

— А я зусім не так уяўляла сабе рубеж Еўропы і Азіі, — сказала Тамара Кузняцова. — Толькі што мы былі ў Еўропе, а зараз, выходзіць, у Азіі! Аж дзіўна неяк!..

Вось і Чэлябінск. Адсюль на ўсход ішлі таварныя цягнікі, нагружаныя трактарамі, аўтамабілямі, плугамі, сеялкамі, культыватарамі, зборнымі стандартнымі дамамі, паходнымі кухнямі, аўтапередасоўнымі майстэрнямі.

Назаўтра раніцай мінскія добраахвотнікі ехалі па землях Казахстана.

Нарэшце — станцыя Аман-Карагай. Тут ужо некалькі дзён чакалі гасцей. Доўгая чарада аўтамашын накіравалася да раённага цэнтра Сяміазёрнае, размешчанага сапраўды сярод шматлікіх азёр. У гэты дзень прыехалі не толькі мінскія добраахвотнікі. Прыехала таксама моладзь з Одэсы. Пасланцоў Беларусі і Украіны прыйшлі сустракаць калгаснікі, механізатары, мясцовая моладзь. Гасцей чакалі. З соўгасаў у раённы цэнтр прывезлі валёнкі, кажухі, ватоўкі. Моладзь адразу атрымала прызначэнне на пастаяннае месца работы.

Брыгада Уладзіміра Прылуцкага сфарміравалася яшчэ ў Мінску. Яе назвалі іменем XVIII з'езда ЛКСМ Беларусі. Уладзімір ехаў на новае месца работы не з пустымі рукамі. Ён вёз многа патрэбнага інструменту, літаратуру.

Па прыкладу Уладзіміра Прылуцкага новую трактарную брыгаду скамплектаваў і вопытны механізатар Уладзімір Шарамет. Першымі ў яе ўліліся яго сыны комсамольцы Сяргей і Альберт — добраахвотнікі з Мінскага трактарнага завода.

Тамара Кузняцова і яе сяброўкі з аўтамабільнага завода ўвайшлі ў брыгаду Уладзіміра Прылуцкага.

... Калона аўтамашын рухаецца па стэпу. У паветры звініць песня «Бывайце здаровы». Песня гэтая ў бязмежным стэпу, мусіць, гучыць упершыню.

Галаўная машына, на якой ехаў Уладзімір Прылуцкі, спынілася. Юнак падняўся і агледзеўся вакол. Ён убачыў некалькі трактараў «С-80». У пярэдняй машыне матор заглух. Худзенькі малады трактарыст, у зашмальцованым кажушку, правяраў карбюратар.

— Чаму стаў? — спытаў Уладзімір трактарыста, падышоўшы да яго.

— Сам не ведаю. З маторам штосьці...

З дапамогай Уладзіміра дэфект хутка знайшлі. Трактар, а з ім і ўся калона крануліся ў дарогу. Ад хлапца Уладзімір даведаўся, што ў іх соўгас прыбыло шмат новай тэхнікі. Гэта ўзрадавала яго.

Тамара, захутаўшыся ў кажух, сядзела ў кузаве і глядзела ў стэп. Яна думала аб маці, якая засталася там, у Бабруйску, аб сястры, з якой жыла разам у Мінску. Дзяўчыне хацелася, каб маці была спакойна за яе. Столькі моладзі едзе сюды! Гэта добра, што яна вырашыла ехаць... Да машыны падышоў Уладзімір.

— Не замёрзлі? — спытаў ён.

— А вы яшчэ памятынгуйце, тады спытаецеся... — адказала Тамара.

Хутка прыехалі ў соўгас. Уздоўж шырокіх вуліц стаялі акуратныя домікі. Тут свой клуб, пошта, тэлеграф, магазіны, урачэбны ўчастак і нават рэстаран. На ўскрайку размешчаны жывёлагадоўчыя фермы, майстэрні, павеці для машын. Побач — стромкія сосны... Там-сям растуць нават бярозкі.

Пасланцоў Беларусі сустрэлі гасцінна. І тое, што ўчора здавалася невядомым, загадкавым, стала блізкім, зразумелым.

Яшчэ праз дзень брыгада Уладзіміра Прылуцкага ўключылася ў работу. Пачалі з рамонту машын — аўтамабіляў, трактараў, самаходных камбайнаў. Справа — знаёмая. Вечарам таго-ж дня пайшлі ў агратэхнічны гурток: каб вырошчваць хлеб, трэба многа ведаць!

Дзень за днём праходзіць у напружанай рабоце. На стэпавых прасторах Казахстана ўжо гудуць трактары пасланцоў комсамола Беларусі. Работы ўперадзе багата! Толькі сёлета калгасам і соўгасам Сяміазёрнага раёна трэба асвоіць звыш 100 тысяч гектараў цалінных і абложных земляў.

**Н. АРЫШЧУК.**

**Сяміазёрнае, Кустанайская вобласць.**

Беларускія комсамольцы, якія паехалі на асваенне цалінных і абложных земляў.

Фото аўтара.



Раман САБАЛЕНКА

# СВЕЖЫ НУМАР

А палове другой гадзіны дня з фабрыкі да сталовай палілася людская рака. Рабочыя спяшаліся. У большасці гэта былі дзяўчаты. Яны гучна гаманілі і смяяліся.

Толькі маладыя майстры Чырыкава, Туманава, Шынкарэнка і Цвірко, якія нядаўна прыехалі на фабрыку, трымаліся неяк адасоблена.

Калі яны праходзілі па калідору ў сталовую, Аня Туманава ўбачыла Валю Багданаву і Іру Байцову, якія крыху раней закончылі той-жа, што і Аня, тэхнікум. Яны пра нешта вельмі ажыўлена гаварылі з Еўдакіяй Окуневай — сакратаром камітэта камсамола. Тут-жа да Ані данесліся галасы:

— От прабралі, дык прабралі!

— Правільна прабралі.

Праўду кажучы, у Ані было нейкае прадчуванне. Пасля таго вечара, калі яна ў сваім пакоі інтэрната наладзіла пагулянку з выпіўкай, у Ані неяк неспакойна было на душы. Яна і сама ведала, што ў інтэрнаце такога вэрхалу рабіць нельга. Але тады, на вечары, ёй і ў галаву не прышло, каб хоць трохі суцішыць сваіх гасцей і не перашкаджаць адпачынку дзяўчат з другіх пакояў.

Калі Аня падышла да насценгазеты, усе, хто там стаяў, нібы па камандзе, паглядзелі на яе. Аня прабегла вачыма першую калонку. Там гаварылася, што фабрыка ў першым квартале не здавала тэмпаў, змагалася за высокую якасць прадукцыі і ні ў якім разе не павінна выпусціць з рук пераходнага чырвонага сцяга. На апошняй калонцы Аня заўважыла загаловак: «Творчы вечар». «Што гэта за творчы вечар?» — падумалася ёй. Прабегла вачыма заметку, зірнула на карыкатуру, на якой былі намаляваны дзяўчаты з раскудлачанымі валасамі і хлопец з апушчаным на вочы чубам, што намагаўся ісці ў скокі, але не мог, бо яго ледзь трымалі ногі. Твар Ані заліўся густой чырванню... Яна хуценька павярнулася і пайшла да сваіх сяброўак.

— Дагуляліся... да насценгазеты, — злосна сказала Аня. — Вунь ідзіце паглядзіце, як нас размалявалі...

Дзяўчатам і абед быў не ў абед. А Аня раз-по-разу кідала позірк на той столік, дзе сядзелі Валя Багданава, Іра Байцова і Еўдакія Окунева, і думала: «А яшчэ сяброўкі, не маглі абараніць!..»

Выходзячы са сталовай і сутыкнуўшыся ў дзвярах з Валяй, Аня злосна бліснула на яе вачыма.

Семянчук Ліда — работніца партфельнага цэха — не змагла ў дзяцінстве вучыцца ў школе. Вайна перашкодзіла. Неяк паклікала яе да сябе Еўдакія Окунева і сказала:

— Ведаеш, Ліда, трэба вучыцца. Ты-ж маладая яшчэ, можаш нават да інжынера давучыцца.

— Добра было-б, каб магла, — адказала Ліда. — Толькі як-жа я змагу?

— А так, як усе. На нашай фабрыцы дзвесце чалавек вучацца! Я табе дапамагу ў пазменную школу паступіць.

І Ліда заахвоцілася вучыцца. Першы час яна рупліва сядзела над кніжкамі. Лідзе здавалася, што перад ёй раскрываўся новы свет! Як толькі канчалася работа, яна хуценька бегла ў інтэрнат і садзілася за кніжку.

Першы час яна добра вучылася ў чацвёртым класе пазменнай школы. Еўдакія Окунева нават радавалася за яе. І вось раптам, нядаўна, нямаведама чаму, Ліда пазакідала ўсе свае кніжкі. Са школы ў камітэт комсамола прышла трывожная вестка: «Ліда пакінула школу». Прышла гэтая вестка і ў рэдкалегію «Комсамольца». Сяброўкі Ліды напісалі ў газету не таму, каб пакрыўдзіць дзяўчыну, яны проста хацелі дапамагчы ёй зразумець, што яна зрабіла няправільна, занядбаўшы вучобу для гульні. Рэдактар газеты Валя Багданава, параіўшыся з членамі рэдкалегіі і сакратаром камітэта комсамола, вырашыла стварыць вакол гэтага факта грамадскую думку, тым больш, што такія выпадкі могуць быць не толькі з адной Лідай. І вось у газеце з'явілася заметка, у якой расказвалася аб тых комсамольцах, якія добра працуюць на фабрыцы і добра вучацца. А ў канцы заметкі пісалася: «Семянчук Ліда пакінула вучыцца ў школе. Сорамна не толькі ёй, а і ўсім нам, комсамольцам, за такі ўчынак...»

— Ну што-ж, няхай пішуць. А мне надакучыла вучыцца, — сказала Ліда, прачытаўшы заметку.

— Надакучыла, кажаш? — перапытаў нехта з дзяўчат. — Хутка-ж табе надакучыла!

А праз некалькі дзён Ліду выклікалі на пасяджэнне камітэта комсамола. Разглядалася заметка, надрукаваная ў насценгазеце «Комсамолец». Ліда нічога не магла сказаць у сваё апраўданне. Апусціўшы вочы, яна маўчала, калі ў яе пыталі, чаму яна так зрабіла. Тады слова ўзяла Багданава Валя.

— Што-ж ты сабе думаеш, Ліда? Ці не збіраешся ты непісьменнай усё жыццё сваё пражыць? Дык ты яго змарнуеш, а не пражывеш. Наш час такі, што без навукі і за парог не выходзь. Ты-ж бачыш, якія на нашу фабрыку кожны год машыны прыбываюць. Непісьменнай ты будзеш каля іх, як у цёмным лесе, хадзіць.

Ліда слухала Валю, а думала сваё: «І якая ім справа да таго, ці вучуся я, ці не...» І нібы ў адказ на гэтую думку Ліды, пачуліся словы Окуневай:

— Не думай, Ліда, што вучоба гэта толькі твая асабістая справа. Не! Гэта справа ўсіх нас — тваіх сяброўак па працы.

Актыўна і горача комсамольцы абмяркоўвалі ўчынак Ліды Семянчук, даказалі ёй, што комсамолка так рабіць не можа. І на другі дзень Ліда зноў села за кніжкі. Цяпер, як толькі яна сустрэне Валю Багданаву, абавязкова скажа ёй:

— Я вельмі дзякую газеце, што паправіла мяне.

На фабрыцы імя Куйбышэва выходзяць чатыры агульнафабрычныя газеты: «Куйбышавец» — орган парткома і фабкома, «Комсамолец» — орган комсамольскага камітэта, а таксама дзве спецыяльныя—«Спорт» і «Рацыяналізатар», якія асвятляюць на сваіх калонках спартыўнае жыццё, дапамагаюць творчай думцы рабочых актывізавацца і развівацца. Дырэкцыя фабрыкі і партыйны камітэт чула прыслухоўваюцца да голасу рабочых карэспандэнтаў. У васьмі цэхах фабрыкі выходзяць свае цэхавыя газеты. Усё тое перадавое, што нараджаецца ў цэхах, знаходзіць сваё адлюстраванне ў заметках; газеты бязлітасна крытыкуюць і выкарчоўваюць усё, што замінае рытмічнай і зладжанай працы калектыва. Быў нядаўна такі выпадак. Работніца Мая Бяда дрэнна даглядала сваё рабочае месца. Сяброўкі не раз казалі ёй:

— Ты, Мая, па вушы ў брудзе сядзіш. І як табе не сорам!

— Мне і так добра, — адказвала яна. І толькі пасля таго, як у цэхавай насценгазеце з'явілася заметка «Бруд перашкаджае выкананню плана» і пытанне абмеркавалі на бюро цэхавай комсамольскай арганізацыі, Маю нібы падмянілі. Цяпер яе рабочае месца заўсёды чыстае, акуратнае.

Вялікая, дзейсная сіла друкаванага слова на фабрыцы адчуваецца ва ўсім. Газеты не толькі крытыкуюць рабочых за непаладкі, — яны арганізоўваюць калектыў. 19 сакавіка майстар групы гаспадарчых сумак тав. Шакура выканаў датэрмінова план першага квартала, пры гэтым даў першагатунковай прадукцыі 99,9 працэнта пры плане 99,8 працэнта. Пра гэты працоўны поспех трэба было паведаміць усяму калектыву, зрабіць яго мабілізуючым прыкладам. Рэдкалегія насценнай газеты «Комсамолец» адразу-ж выпусціла лісток-маланку. Прыгожа аформленыя аркушы паперы былі расклеены ва ўсіх васьмі цэхах фабрыкі. Яны заклікалі рабочых і работніц фабрыкі следаваць прыкладу тав. Шакуры.

У сталовай вывешаны зноў свежы нумар насценгазеты «Комсамолец». Зноў, як і тады, каля яго сабралася многа моладзі. Некаторыя залівіста смяюцца з карыкатуры, на якой намаляваны члены камітэта комсамола за прасторным сталом. З-за пасяджэнняў ім няма часу зайсці ў інтэрнат і пацікавіцца, як жывуць дзяўчаты. Вось падышла і рэдактар Валя Багданава. Аня Туманава адразу заўважыла Валю. Падышла, прывіталася з ёю і сказала:

— А я на цябе, Валя, ужо не злую. Тады злавала. Бачу, што і ты сябе не пасаромілася пакрытыкаваць.

— А хіба-ж на праўду вочы заплюшчваюць?

У час гэтай гаворкі да насценгазеты падышлі дырэктар фабрыкі Тарасевіч і сакратар партыйнай арганізацыі Шыфрына. Дырэктар прачытаў заметку і звярнуўся да Шыфрынай:

— Тут комсамольцы каменьчык у наш горад кінулі. Не забудзьце заўтра прыйсці да мяне, сходзім і паглядзім, што трэба зрабіць у інтэрнаце, каб дзяўчатам лепш жылося.

— Добра, абавязкова зайду, — адказала Шыфрына.

Званок абвясціў канец перапынку на абед. Валя Багданава з Аняй Туманавай, узяўшыся пад рукі, ішлі з сталовай у цэх. Яны аб нечым шчыра і горача гаварылі, хоць слоў іх і нельга было пачуць за рознагалосым гоманам дзяўчат, якія ішлі на свае рабочыя месцы множыць працоўную славу свайго дружнага рабочага калектыва.

г. Мінск.

Паўлюк ПРАНУЗА

## Дом настаўніка

На пабыўку едзеш, але зроду
Гэты дом, як бацькаў, не мінеш...
Ты паэтам стаў: прыпомніш годы,
Як складаў таемна першы верш

І нікому пра яго ні гуку,
Нават сябру, з кім сядзеў, дружыў.
Аднаму настаўніку ты ў рукі
Аддаваў сакрэт сваёй душы.

Стаў ты мараком,
У дальніх водах
Плаваеш, дзе вецер ды туман,
Гэты дом перад табой заўсёды,
Як маяк, —
Святлей яго няма.

Стаў пілотам, прыгадаеш планер,
Што пускаў над школай, над сялом...
Часу малавата, а заглянеш
Да свайго настаўніка у дом.

Аб жыцці-быцці цячэ размова,
Нібы вучні перад ім мы зноў.
Трэба — папракне суровым словам,
Трэба — нас пахваліць, як сыноў.

Адыходзіш ад яго парога,
Далячынь святлее прад табой,
Робіцца лягчэйшаю дарога:
Ты гатоў на працу і на бой.




**Заўтра павінен выйсці свежы нумар «Комсамольца». Работы нямала. Трэба, каб і гэты нумар быў баявы, мэтанакіраваны і, што асабліва важна, — цікавы.**

**Закончылася змена, і майстар цэха Валя Багданава, інжынер Зіна Сарока і кантрольны майстар Ірына Байцова — рэдкалегія насценгазеты — заселі за работу** (на здымку злева направа). **У заўтрашні нумар пойдуць матэрыялы пра маладых перадавікоў фабрыкі імя Куйбышэва, пра вопыт і метады іх работы. Няхай бярэ з іх прыклад увесь рабочы калектыў. Не паздаровіцца тым, хто адстае, не змагаецца за чэсць фабрычнай маркі, не хоча вучыцца. У такой справе не можа быць скідкі на сяброўскія адносіны з тымі, каго трэба крытыкаваць. Рэдкалегіі давярае ўвесь калектыў, і голас «Комсамольца» — гэта голас усяго калектыва, усёй комсамольскай арганізацыі фабрыкі.**

**Заўтра, як і заўсёды, маладыя рабочыя будуць чытаць у сваёй насценгазеце пра справы, якія яны ажыццявілі, пра задачы, якія ім абавязкова патрэбна выканаць.**

Фото А. Дзітлава.

Зімой, у лютыя марозы, зайшоўшы ў магазін Цэнтральнага сквера, вы ўбачыцэ тут пышна расцвіўшыя цыкламены, цынерарыі і іншыя кветкі поўдня. У пакоі стаіць тонкі, ледзь улоўны арамат. Здаецца, вось-вось зазвініць пчала, пералятаючы з кветкі на кветку.

Цыкламены — прыгожыя ружовыя, белыя, блакітныя кветкі, якія растуць у Іраку і Сірыі, знайшлі сваю другую радзіму ў Беларусі. Выдатна вырошчваюцца ў нашых умовах і цынерарыі, радзімай якіх з'яўляюцца Канарскія астравы, і азалія індыйская.

Перыяд вегетацыйнага развіцця поўднёвых кветак прыпадае не толькі на лета, ён захоплівае восень і зіму. Цыкламены цвітуць у студзені, цынерарыі — у лютым, азаліі — у сакавіку. Гэтыя кветкі вырошчваюцца ў аранжарэях.

У маі на бульварах, у скверах сталіцы пад шатамі зялёных ліп цвітуць маргарыткі, віолы, незабудкі, крыху пазней — сальвіі і бегоніі. Без кветак мы не ўяўляем сабе вобліку вуліц і сквераў, кветкі ўпрыгожваюць наша жыццё.

Шмат кветак, якія мы бачым у магазінах і на бульварах, вырошчваюцца ўмелымі рукамі калектыва Мінскага садаводства № 2. Гэта крапатлівая і вялікая работа. Поўднёвыя кветкі, напрыклад, высяваюцца яшчэ летам, потым акуліруюцца, у час цвіцення штучна апыляюцца. Патрэбна строга вытрымаць усе тэрміны, падтрымліваць адпаведную тэмпературу і святло ў аранжарэях. Многа старання і сіл укладваюць у любімую справу кветкаводы Тамара Красоўская і Тамара Парошына.

На здымку: Тамара Красоўская і Тамара Парошына аглядаюць кветкі перад адпраўкай іх у магазін. Заўтра гэтыя кветкі ўпрыгожаць кватэру рабочага, інжынера, настаўніка. Тыя кветкі, што цвітуць сёння на бульварах, пад ліпамі, таксама вырашчаны ўмелымі рукамі кветкаводаў.

Фото А. Дзітлава.





Кастусь КІРЭЕНКА

# Новыя вершы

## ТЫМ, ХТО Ў ДАРОГУ ЕДЗЕ

Усім, хто ў дарогу едзе,
Хто блізкі і родны нам,
Сваім землякам, суседзям,
Сяброўкам і дружбакам,
Хто думкай і сэрцам шчыра
Імкнецца ў бязмежны час, —
Сёння на развітанне
Гэткі даем наказ:
— Не забывайце нас!

На землях Сібіры, Алтая,
Там, каля Сыр-Дар'і,
Будзеце вы, мы знаем,
У добрай, сваёй сям'і.
І ўсё-ж, калі цяжка стане
Вам на якой пары,
Згадайце, што ёсць на свеце
Верныя ў вас сябры.

Тыя, з якімі разам
У ранак юнацтва ішлі,
І першы смутак спаткалі,
І першую радасць знайшлі,
З якімі ўслаўлялі працай
Родны завод ці калгас, —
Згадайце пра нас, гукніце —
І ўсё мы зробім для вас!

Няхай дзесь на новых месцах,
Дзе ласкі чакае стэп,
Няхай вам жывецца слаўна,
Хай будзе гасцінным ваш хлеб,
Няхай ураджайныя нівы
На ўсіх устаюць палях!
А зараз — яшчэ вам жадаем
Шчасця ў далёкі шлях.

## ПАРТРЭТ ГЕРОЯ

Сумна маці адной жыць, сумна.
Што ні дзень — то на матчыным твары маршчына,
Год за годам ідзе, а адна ў яе дума:
Чакае,
Не дачакаецца сына.

Чакае,
Не дачакаецца,
Гукае,
Не дагукаецца,
Не дапытаецца маці ні ў кога:
Як ён, сын яе, зараз маецца,
Дзе ён, дзе яго сцежка-дарога?

Што дадому ён доўга не прыязджае —
Не бяда. Не таму яе хіліць журбота.
Сумна, што адрасу сына не мае,
Нагаварыцца-б праз пошту ў ахвоту.

Ёсць у яе яго адрас вайсковы,
Ёсць партрэт — каля сэрца насіла:
У суровай задуме зведзены бровы,
Твар — як выліты: мужнасць і сіла.

Беларускія пушчы, ціхія лозы,
Лясныя азёры, неараныя пожні,
Партызанскія рэйды, гром паравозаў...
Вось ён, адрас апошні.

Толькі не ведае, журыцца маці —
Дзе ён сёння, куды напісаці?

І вось пасылае ліст яна краю,
Ліст гарачы Радзіме вялікай:
Хай адкажа ёй — хто што знае,
А не знае — паможа клікаць.

Час мінае — за летамі зімы...
І прыходзяць маці тысячы лістоў,
З усёй неабсяжнай Радзімы
Тысячы партрэтаў, тысячы адрасоў.

Маці шчасныя слёзы ўцірае,
Ды ніяк зразумець не можа праз радасць:
Якая-ж прафесія ў сына, якая
У любага сына сёння пасада?

Там ён — у куртцы стаіць машыніста,
Там вось — вайсковы мундзір, пры пагонах,
Там — у вясковай кашулі квяцістай,
А на партрэце другім — як вучоны.

Мусіць, вялікія справы ў сына, —
Думае маці, — такі многалікі...
Мусіць, вялікія справы ў сына, —
Так, вялікі, маці, вялікі!

## РАНАК У ПОЛІ

Аж да ранку грымела
У палях навальніца,
Ды не здолела
Сонца на ўсходзе спыніць.
Зноў вясёлая рунь
Чыстым срэбрам іскрыцца,
Зноў над полем
Бадзёрая песня звініць.

Як смяецца прастора,
Як ззяе навокал!
А блакіт —
Зд'эцца, хрусне, ледзь толькі крані.
Стольні ўсюды святла,
Што аж жмурыцца вока,
Не ўвабраць яму
Усёй палявой чысціні.

Далягляд —
Нібы ветразь зялёны напяты:
У праменнях
Плыве ў сваё шчасце зямля.
З добрых рук чалавека
Прымае зярняты,
Падарункам вясновым
Прымае ралля.

І, відаць,
Адчувае зямля нашу любасць,
Нашу веру —
Багаццем праславіць яе, —
Бо вятрамі пясчотна
Цалуе у губы
І штодня прыгажэйшай
Прад намі ўстае.

## ПАХ ЧАБАРОВЫ

Не прыдумаю сама,
Што са мной здарылася:
З працы сёння ішла дамоў —
І з дарогі збілася.

Мне-б ісці каля ракі,
Я-ж пайшла дубровай.
Галаву маю кружыў
Пах чабаровы.

Я ішла ўсё ды ішла,
Аж пакуль сумелася.
І не ведаю сама,
Як з Ігнасем стрэлася.

А Ігнась-жа — ён са мной
Ды такі суровы...
Не кружы ты галавы,
Пах чабаровы!

Хлопец глянуў на мяне —
Я аж здрыганулася.
Але што са мной? Чаму
Да яго схінулася?

І чаму так мілы мне
Прывітання словы?
Кружыць, кружыць галаву
Пах чабаровы!

Неба ззяла над зямлёй
Яркай вечарніцаю.
Мы сядзелі удваіх
З любым над крыніцаю.

Толькі ціхія дубы
Чулі нашы змовы...
Ой, вясна мая, вясна,
Пах чабаровы!

Што скажу матулі я,
Як часінай позняю
Я з'яўлюся перад ёй —
Ласкавай і грознай?

Што скажу, схаваю як
Водыр той дубровы?
Я-ж у хату прынясла
Пах чабаровы...

## ПЕСНЯ

Сонца і вецер і ліўні
Пахнуць губамі тваімі,
Вочы твае мне смяюцца
З ласкавай плыні ракі,

Крыкну — і рэха здалёку
Гучна нясе тваё імя
З кім павітаюся — чую
Поціск любімай рукі.

Светам праменным і гулкім,
Шчодрым і радасна-простым —
Светам юнацкага шчасця
Ты адкрываешся мне.

Людзі спытаюць, напэўна:
— Што тут? — любоў ці сяброўства? —
Я-ж не падумаў пра гэта,
Гледзячы ў вочы вясне.

Ведаю толькі, што ранак
З песняй тваёю прыходзіць,
Дзень, калі ў поле ты крочыш,
Поўніцца ясным святлом,

Колеру воч тваіх вечар
Звонка плыве ў карагодзе...
Ведаю: ўстала, як шчасце,
Ты паміж мной і жыццём...



Мал. В. Ціхановіча.

Янка БРЫЛЬ

# РОДНАЯ ГЛУХАМАНЬ

Урывак з аповесці

Крошка свежага хлеба старанна скамечана ў шарык, начэплена на кручок, аплёвана на шчасце і асцярожна апушчана на ваду. На ціхай, загадкавай роўнядзі яе застыла ў чаканні блізкай удачы белая перына паплаўка.

Далейшае ўявіць няцяжка. Пад паплаўком, у тым таямнічым падводным царстве, куды патанула прыманка, прачнулася ўжо далікатная прыгажуня плотка. Іменна тая, што павінна быць першай. Пераборлівая нават і нашча, яна спачатку паторкае крошку, соладка іграючы на нервах рыбака, і вось, нарэшце, ласкавы лёс твой пакажа белым тонкім пальцам паплаўка ў дно — цягні!

Сухая і кастлявая на скаваролцы, як-жа яна хараша выглядае на кручку, гэта самая плотка, асабліва ў той момант, калі, трапечучы на валасяной струне шнура, набліжаецца да прагнай рукі рыбака жывым, мокрым срэбрам лускі! Прыходзіць як яшчэ адзін хвалюючы ўспамін, як напамінак аб сонечных і росных раніцах маленства...

Ды ўсё гэта для Анатоля не галоўнае.

Малады чалавек сядзіць на прызбе хаты, ля вугла, і сочыць за паплаўком. Час-ад-часу ён адрывае вочы ад паплаўка і азіраецца.

Двор на ўсю шырыню роўна зарос травой, па-хатняму люба пахне рамонкам, як той няхітры чай, які калісьці анатолева маці гатавала ў гаршку, накрытым чарапком. Тры такія гаршкі вісяць на частаколінах плоту, перад кухонным акном. Дзверы ў сенцы яшчэ не адчынены, ды ля парога, на траве, стракаціць ужо і настойліва кланяецца хаце вечна галодная, нахабная арава качак. Яны то лісліва бурляць, як мелкі, шырока разліты ручай на каменні, вось-вось гатовыя ўбачыць на парозе гаспадыню з рэшатам ці з вядром, то нецярпліва дзяруцца злосным, абураным крыкам.

Больш памяркоўна вядуць сябе куры. Певень дык той наогул перабраўся на астравок сярод двух рукавоў ракі і пахаджвае там у таварыстве трох чубатак, відаць, найбольш сур'ёзных, таксама схільных да саліднай цішыні.

«І як ён забраўся туды, за ваду?» — неяк між іншым думае Анатоль.

Астравок на рацэ — невялікі, зарослы гонкай ядавітай крапівой і густым, як жываплот, разгалістым дзядоўнікам з сіне-малінавымі шышкамі кветак. Ля берага з левага боку — аер і чырвоны трубняк, з якога пастухі майструюць помпы, з правага боку — мокры пясок, пакрыты адбіткамі лапак і пухам качак і гусей. На пяску ляжыць старая, забытая ўсімі калода, з тых сукаватых, чачоткаватых калод, што не баяцца ніякай сякеры.

Курыны гаспадар — чырвона-сіне-залацісты прыгажун, з дружных і геройскіх пеўняў, што ў казках сябруюць з катамі і выручаюць з бяды пакрыўджаных зайчыкаў. Убачыўшы на прызьбе хаты рыбака, ён ускочыў на калоду і, надзьмуўшыся, кінуў яму цераз ваду рашучы выклік:

— Как-ка-ге-е!..

«За астраўком, — успомніў Анатоль, — рукаво рэчкі вузенькае, а кладка з шырокай дошкі...»

Ясна, як там змог апынуцца гэты гарласты сухапутны герой. Ды Анатоль думае пра яго абыякава. Вочы хлопца — на белай перыне паплаўка...

Анатолю дваццаць шосты год. Месяц таму назад ён закончыў чацвёрты курс філфака БДУ і, пагасціўшы дома, у сям'і старэйшага брата, прыехаў сюды да свайго партызанскага сябра, аспіранта Максіма. Чацвёрты дзень, як ён тут. Анатоль позна засынае пад гутарку на свежым сене і прачынаецца разам з сонцам, пад прыкры лямант тлустых, пражорлівых качак. Пасля самастойнага студэнцкага харчавання ён не без прыемнасці садзіцца тройчы ў дзень за просты, гасцінны стол у хаце максімавага бацькі, дзе Анатоль даўно адчувае сябе, як дома. Час у асноўным праходзіць над звілістай рэчкай Быстранкай, багата абламаванай алешнікам і трысцём, месцамі даволі глыбокай і заўсёды з халоднай, нібы крынічнай, вадой. Чацвёрты дзень стары прамкамбінатаўскі млын над рэчкай грукоча глуха і аднастайна, як нейкі вялізны старасвецкі будзільнік, нястомна паўтараючы адно і тое-ж слова, што падабаецца Анатолю з кожным днём усё больш... Музыка гэтая пачынаецца звычайна на світанні. Да поўначы, а то і за поўнач, гучыць яна ў духмяным хлебным пыле, пры цьмяным, нядаўна праведзеным і сюды электрычным святле.

І цяпер вось шуміць на коле, пеніцца халодная вада, працавіта грукочуць каменні, а ў гэтым шуме ды грукаце чуваць адно, вельмі любае Толі імя:

«Люда, Люда, Люда, Люда...»

Уяўленне гэта — не новае, кніжнае. Ужо даўно недзе ў Польшчы стаяў над рэчкай такі вось самы драўляны млын і ў млынара была Магда, дачка, імя якой з любасцю паўтаралі млыновыя каменні. Ды што ты зробіш, — Анатоль не проста студэнт, а студэнт-журналіст, які прыехаў сюды, у родную заходнебеларускую глухамань, са сталіцы рэспублікі, з раскошнага свету кніг, і ён з асалодай чытаў поўныя задушэўнага суму і здаровага смеху апавяданні Пруса, і яму, Анатолю, разам з Прусам і тысячамі яго чытачоў падабалася тое, што нават стары польскі млын і той палюбіў млынарову сардэчную, простую Магду.

Там была Магда, а тут — малодшая сястра Максіма Люда, адзіная дачка дзядзькі Антося Сцяпуры, які загадвае гэтым, калісьці купецкім, млыном.

Месяц таму назад Люда закончыла настаўніцкі інстытут і ўжо менш як праз месяц пачне выкладаць сваю любімую фізіку і матэматыку, будзе настаўніцай, а пакуль што — адгульвае апошнія студэнцкія канікулы. Праўда, гуляць ёй даводзіцца мала: зімой памерла маці і хата апусцілася была без гаспадыні. Дваццацігадовая Людачка — ужо

не студэнтка і яшчэ не настаўніца — гаспадарыць у хаце і ў градах, і вельмі рада дзяўчына, што інстытут закончыла на выдатна, і да школы яе толькі два кілометры, і тата, які пачаў нешта недамагаць, не будзе ўжо без догляду.

Люда ўсё не ідзе, хоць млын ужо даўно, з гадзіну, паўтарае імя дзяўчыны, нібы аб'яўляючы, што хутка адчыняцца нізкія дзверы сенцаў і па роснай траве, у рамонкавым паху, у ранішнім золаце сонца пройдзе яна — наймілейшая ў гэтым ціхім, прыгожым кутку.

Белы паплавок, нібы таксама зачараваны, ляжыць на месцы нерухома...

Млын ад хаты аддзяляе грэбля, такая высокая, што, седзячы на прызбе, Анатоль бачыць толькі другі паверх млына ды шэры дах з драніцы і, побач з ім, верхавіны надрэчных алешын.

Недзе там, за млыном, над лугамі, узышло ўжо і трохі паднялося сонца, прамені якога пакуль што не даходзяць сюды, дзе астравок з дзядоўнікам, зацішак на вадзе і студэнт з вудай.

Плотка нарэшце заўважыла крошку. Белы паплавок ажыў і, пасвойму перадаючы гульню рыбы з прыманкай, пачаў патузвацца і торкаць носам у ваду... Толя прыўзняў галаву, стаіў дыханне і заціснуў у жмені арэхавы прут вудзільна.

Ды гэта было не ўсё яго шчасце, — якраз у той самы момант за вуглом хаты на двары пачуўся качыны спалоханы крык і шум крылляў: сюды ішоў чалавек.

Чалавекам гэтым магла быць і напэўна была толькі яна...

Толя падсек, і на канцы шнура пад вадой пачулася даўно чаканае далікатнае супраціўленне. Потым растрывожаная паверхня вады азарылася бляскам лускі.

Ды сталася нечаканае, — плотка, даволі ўжо высока над вадой, сарвалася з кручка. І ў той-ж самы момант ззаду, над галавой Анатоля, пачуўся голас:

— Та-ак! І сапраўды, як той казаў:

Жывуць на свеце людзі з вуды,
Але не ўсе і не заўсюды.

Сарвалася... Нічога, брат, не зробіш! Ну, здароў!

Толі вельмі хацелася паслаць філосафа трошкі далей ад ракі, — і таму, што гэта іменна ён падышоў, а не той, каго тут чакалі, і што іменна ён убачыў першую рыбацкую няўдачу. Ды злосць Анатоля сутыкнулася з яго культурнасцю, і ў выніку такога ўзаемаштуршка пачуўся голас, што ў нейкай меры нагадваў мармытанне далёкага грому:

— Здароў, здароў...

Азірацца не трэба: і так вядома, што гэта — Сяргей.

Сяргей Вітушка — максімаў сябра па універсітэту, а цяпер, ужо тры гады, настаўнік, дырэктар сярэдняй школы. Працуе ў суседнім раёне, кіламетраў за дваццаць, і вось прыехаў на веласіпедзе ў госці. Старэйшы ён нават і за Максіма, а ўжо за Толю, дык больш чым на дзесяць год. Вітушка з таго пакалення заходнебеларускай моладзі, юнацтва якой прайшло ва ўмовах панскага прыгнёту. На пачатку трыццатых гадоў разам з нямногімі дзецьмі сялян і рабочых Сяргей меў шчасце трапіць у адну з двух яшчэ не закрытых да таго часу беларускіх гімназій, правучыўся там тры гады, а на чацвёртым годзе апынуўся ў астрозе — за ўдзел у камсамольскім падполлі. У векапомным верасні, вызвалены з астрога, дваццаціпяцігадовым вопытным мужчынай Сяргей паступіў у дзевяты клас савецкай сярэдняй школы, а вышэйшую асвету яму ўдалося закончыць толькі на пятым годзе пасля вайны.

Словам, Сяргей быў харошы, цікавы таварыш, аднак для Толі былі ў ім тры непрыемныя рэчы, якія ўжо некалькі разоў за гэтыя тры дні выходзілі на пярэдні план... Іменна — не засланялі таго добрага, што было ў Вітушку, а выходзілі на пярэдні план, былі, як гаворыцца, на вачах, пад рукамі. І — дзіўней за ўсё — гэта былі не якія-небудзь заганы, а проста драбніцы, ды Толя і цяпер адчуў і ўбачыў іх паміж сабой і Сяргеем вельмі выразна.

Першае, што не падабалася Анатолю: Вітушка, гэты здаровы, каржакаваты, заўсёды спакойны мужчына, знайшоў час ажаніцца падчас акупацыі; другое: седзячы ў панскай турме, ён вывучыў нікому, а яму тым больш, непатрэбна эсперанта і сяды-тады прыводзіць слова з гэтай штучнай, забытай мовы; трэцяе, ужо самая дробязная дробязь: салідны педагог насіў нейкія бабскія трусы, у якіх ён купаўся і загараў зусім спакойна, захоўваючы пачуццё ўласнай годнасці.

Усе гэтыя, так сказаць, недахопы мелі свае вытлумачэнне.

Падчас фашысцкай акупацыі Сяргей быў партызанскім сувязным і, ходзячы па заданню, сустрэў у далёкай вёсцы шмат маладзейшую за сябе Ганначку і пакахаў яе так моцна, што пабаяўся адкладаць вяселле да канца вайны. Закіданая сірата, Ганначка знайшла ў ім сапраўднага друга, якому плаціла за гэта не меншай шчырасцю. Перамагаючы страх, яна дапамагала яму ў партызанскіх справах, а потым, пасля вайны, чатыры гады сама гадавала дачку, пакуль ён вучыўся ледзь не за двесце кіламетраў ад дому.

У панскай турме, якую перадавая частка заходнебеларускай моладзі не без падстаў называла універсітэтам, Сяргей вывучаў марксісцка-ленінскую філасофію, палітэканомію і гісторыю, матэматыку і геаграфію, многа чытаў мастацкай літаратуры, многа думаў і гаварыў з сябрамі аб прачытаным. Ва ўсім гэтым комплексе ведаў бедная эсперанта апынулася неяк між іншым. Аднак і цяпер, калі ўжо Сяргей навёў поўны парадак у сваёй разумовай гаспадарцы, прывёўшы ў сістэму старыя веды і памножыўшы іх на новыя, калі ён, побач з роднай мовай, добра вывучыў яшчэ тры жывыя мовы, — Вітушка любіў часам прывесці слова-два з мовы мёртванароджанай, часта даволі смешнай з усімі гэтымі «коко», «кокіно», «кокідо»*, якімі і ён у свой час захапляўся.

Нарэшце, трэці «недахоп» Вітушкі — яго трусы. Калі расчуліцца над ідылічнасцю сапраўды харошага сямейнага жыцця Сяргея і Ганначкі, дык трусы гэтыя таксама маюць свой глыбокі сэнс. Як толькі Вітушка закончыў вучобу і сеў на зарплату, светлавокая, ціхая Ганначка атрымала ад яго даўно чаканы падарунак — ножную швейную машыну. Рэч гэтая, як вядома, мае ў хаце вялікае значэнне і карыстаецца заслужанай пашанай, ужо не гаворачы пра тыя першыя радасці, што нараджаюцца ў працэсе авалодвання майстэрствам шыць, самой абслугоўваць сям'ю. Ганначка авалодвала майстэрствам краўчыхі настойліва, і кожны новы твор яе, як кажуць літаратары, быў пэўным крокам наперад. Адным з такіх крокаў, зробленых яшчэ пазалетась, былі гэтыя самыя трусы, не зусім яшчэ дасканалыя ў сэнсе памеру і кампазіцыі.

Карацей кажучы — прыход Сяргея быў для Толі зусім нецікавы і непатрэбны, і, зразумела, настрой рыбака сапсаваўся. Усё непрыемнае для яго ў Сяргея вышла зноў на пярэдні план. Толя, ледзь азірнуўшыся на Вітушку, нават праз сінія бастонавыя штаны педагога ўбачыў яго белыя трусы.

— Та-ак, та-ак, брат Анатоль, — гаварыў тым часам Сяргей. — Вуда — штука няпэўная. Бацька мой калісьці правільна разважаў: «Гэта табе не ў кубел з салам руку апусціць»... Праўда, калі ёсць час ды пагода харошая, можна і пасядзець...

— А як будзе на эсперанта плотка? — перапыніў яго Толя, аплёўваючы новую прыманку.

Сяргей успрыняў пытанне сур'ёзна.

— Рыба, здаецца, фішо, а як плотка — не памятаю. Наогул, мова гэтая не апраўдала сябе. Вось што. А мы тым часам памыемся. Я табе, брат, перашкоджу, відаць, нямнога: займуся справай вунь там, на водшыбе.

Ніл ГІЛЕВІЧ

## ПЕРШАКУРСНІЦА

Гаварыла ёй маці, складаючы рэчы:
— Ну, дачушка, глядзі-ж ты сябе ўжо хаця.
І над кніжкай, Аленка, не сохні штовечар:
Каб усе прачытаць іх — няхопіць жыцця...

Ды яшчэ, як заяву прывозіла ўлетку, —
Заглянула Аленка у бібліятэку,
Дзе цудоўныя скарбы радамі стаяць,
У дзяўчыны ад шчасця разбегліся вочы:

«Колькі тысяч тамоў! І бяры — які хочаш!
Вось дзе спраўдзіцца даўняя мара мая!»
Можа быць, прачытаўшы удумна паштоўку,
Будзе крыўдзіцца маці ў далёкім пасёлку,

Што Аленка не ўважыла слоў яе тых.
Толькі як тут дзяўчыне наказу трымацца,
Калі гэтулькі спраў, калі гэтулькі працы,
Калі гэтулькі сілы ў грудзях маладых!

Нездарма яна ў дзённік сабе запісала
На старонцы на першай радкі з «Капітала»,
Што ў навуцы праезджага тракта няма,
Ёсць сцяжынка — цяжкая, крутая сцяжынка:

Трэба крочыць упарта, ісці безупынку...
Перамога насустрач не ходзіць сама.
Хай сяброўкі-таварышкі дзівяцца часта,
Вартаўнічка старая пытае хай часам:

Што так позна кладзешся? так рана ўстаеш? —
Ёсць высокая, ясная мэта ў дзяўчыны,
А да мэты іначай ісці немагчыма,
Як штодзень, штогадзіну — на новы рубеж!

І калі праз гады, пасталеўшай і рослай,
Прыдзе ў школу дзяўчына у родную вёску,
І з павагай аб ёй адзавецца калгас
За глыбокія веды, за шчырую працу, —
Пэўна, пэўна прабачыць шчаслівая маці,
Што не выканан быў яе строгі наказ.

* Певень, курыца, куранё (эсперанта).

«Ну, тут навудзіш», — злосна думаў Толя, пакуль дзве босыя нагі педагога асцярожна і, як здалося студэнту, няўдала пераступалі цераз вудзільна на траве.

Сяргей быў з рушнікам і мылам. Падышоўшы да броду, крокаў за дзесяць ад Толі, ён з той павольнай акуратнасцю, якая ўласціва яму амаль заўсёды аднолькава, павесіў на куст складзены і ўсё яшчэ доўгі рушнік, з вышыўкай і махрачамі на канцах, палажыў на траву ружовую пластмасавую мыльніцу з зялёным туалетным мылам і паволі пачаў падкасваць калошыну.

— Зняў-бы порткі, — параіў Толя, з надзеяй яшчэ раз, іменна цяпер, убачыць славутыя трусы.

— А гэта, браток, без патрэбы, — адказаў Сяргей. — Купацца я не збіраюся.

Пакуль ён ішоў у ваду, занадта, як здавалася Толі, плёхаючы нагамі, пакуль ён пырскаў і цёр свой твар намочанымі рукамі, нехта трэці незаўважана перайшоў цераз рэчку па мосце, адкуль яшчэ ўбачыў Толю і Сяргея, і, збочыўшы на тую кладачку, па якой перабіраўся нядаўна певень з чубаткамі, гэты **трэці** ўзышоў на востраў і пачаў падкрадацца да берага.

Рыбак сядзеў на прызбе надзьмуты, сачыў за паплаўком. Сяргей заўважыў трэцяга, ды той пагразіў яму пальцам, і Вітушка застыў у маўчанні, апусціўшы мокрыя рукі, з шырокай усмешкай на мокрым твары. Ля ног яго ледзь-ледзь гайдалася, заціхаючы, пустая ружовая мыльніца, нібы той паплавок перад вачыма Толі.

Ды вось на паплавок раптам нешта ўпала. Пачуўся ўсплёск, успыхнула злосць у душы рыбака, а злосць гэтую накрыў цудоўны, каханы смех.

Люда стаяла перад ім, за вадой, ля той самай забытай калоды, трымала на адной загарэлай руцэ свежы лазовы кошык грыбоў, другой рукой папраўляла хусцінку на пышных светлых валасах.

— Што, Толя, хто з нас больш злавіў? — смяялася яна.

А на вадзе ля паплаўка пагойдваўся на сваім капелюшы вялікі баравік, што быў нядаўна ў руцэ, якая нешта задоўга папраўляе белую хусцінку.

Ну, што тут скажаш? Шчасце, вядома, не раз прыходзіць нечакана... Ці не, не так, — нельга сказаць нечакана, калі ты вельмі чакаў яго, марыў аб ім. Яно — чаканае, ды не адтуль, адкуль прыйшло. Затое яшчэ больш прыгожае! Тут-бы яго і сустрэць адпаведнымі словамі. Што-ж, калі словы не могуць прыйсці так раптоўна, як радасць, што вось стаіць на фоне зялёнага вострава, за глыбокай і чыстай вадой!...

Словы знайшліся ў Сяргея.

— Здарова, Людачка! Здарова, гаспадынька! Вось гэта дык ранняя птушка! — крычаў ён з броду, цераз ваду. — Баравікі? Ну, і чаму-ж было не разбудзіць хоць-бы мяне?

— Вас разбудзіш, ого! — смяялася Люда. — Відаць, да світання не закончылі спрэчак. А дзе-ж Максім?

Так і пачалася звычайная, празаічная гутарка. Максім, як паведаміў Вітушка, у млыне: гэта не бацька, а ён прымае там гарцавы збор, бо стары занядужаў. Толя сёння заспаў і нічога не ведае.

Сяргей, безумоўна, харошы чалавек, і Толя нічога не мае супраць яго, але як гэта яно супадае заўсёды так, што ён, Сяргей, з'яўляецца не ў час?.. Ну што-ж, цяпер, вядома, пойдзем снедаць, есці гэтыя баравікі, гаварыць аб усім, усе разам, а як толькі зноў здарыцца якая-небудзь магчымасць застацца з Людай адзін-на-адзін — прыдзе з чым-небудзь Сяргей: калі не з мыльніцай і рушніком, дык знойдзецца нешта іншае. Рэчаў у хаце многа, і прычын усякіх многа, не скажаш Сяргею: чаго табе трэба? Калі-ж не Сяргей, дык нехта іншы...

— Толя! Толя, клю-е! — змоўніцкім, нібы спалоханым тонам азвалася Люда.

Ён бачыў гэта і сам, аднак толькі цяпер, як па сігналу, якога чакаў, падняў левай рукой вудзільна... Глупства ўсё гэта, што гавораць, нібы для плоткі, каб прыманіць яе, трэба нейкая незвычайная цішыня! Ужо не толькі смеху ды слоў хапіла-б для таго, каб адпудзіць яе, — сэрца Анатоля забілася так, што стук яго — праз руку, вудзільна і шнур — дайшоў да самай крошкі, з якой цяпер іграла першая сёння і так неабходная цяпер плотка. Яны былі цяпер утрох: чырвонапёрая, срабрыстая рыба ў вадзе, абапал якой ён і яна — гэты хлопец, што прыўзняўся на прызбе і насцярожана выцягнуў шыю, і яна, яго Люда, такая мілая, блізкая і такая яшчэ недасяжная. Яна паставіла свой кошык на пяску і, таксама як ён, Анатоль, нахілілася над вадой. У лёгкай стракатай сукенцы, з загарэлымі вышэй локцяў рукамі, з трохкутнікам загару над маладымі грудзьмі.

— Цягні! Толя, цягні!

Паслухмяны рыбак падсек і падцягнуў. Гэта не рыба, гэта — паэзія, з бляскам лускі і вады, з невыказна прыемным біццём твайго сэрца!..

І што-ж, якраз у той самы момант, калі гэтая паэзія апынулася ў руцэ шчаслівага рыбака, пачуўся зямны, празаічны голас Сяргея:

— Пачатак снедання ёсць! Грыбкі і рыба — бонэгэ! *

І адкуль ён прышоў сюды, дагэтуль, хоць на працягу кароткага часу, нябачны для іх, нібы зусім непрысутны?!..

— Нічога, Толя, — сказала Люда, — пакуль я снеданне зраблю, ты зловіш яшчэ. Мы з Максімам тут часта сядзім — і разам, і па асобку. Месца вельмі харошае.

Колькі цяпла, хараства ў гэтых звычайных, як некаму здасца, словах! І ўсё гэта таму, што іх сказала яна, чыё імя праз увесь гэты час і раней паўтараў і будзе вечна паўтараць стары, таксама закаханы, млын.

* Выдатна! (эсперанта).

# Гаворыць

Тэкст і фота А. Дзітлава.

У памяшканні Галоўнага кіраўніцтва радыёінфармацыі пры Савеце Міністраў Беларускай ССР ёсць два пакоі, адзіным відам абсталявання якіх служаць паліцы. На гэтых паліцах, размешчаных ад падлогі да самай столі, ляжыць мноства плоскіх каробак. Унутры каробак — шчыльныя дыскі вузенькай фера-магнітнай плёнкі. Гэта — фонатэка, сховішча запісаў гукаў. Тут мы знойдзем запісы выступленняў спевакоў, музыкантаў, майстроў мастацкага слова, цэлыя оперы і драматычныя спектаклі, дакументальныя хранікальныя запісы і складаныя радыёкампазіцыі.

Адным з апошніх папаўненняў фонатэкі беларускага радыё з'яўляецца кампазіцыя па п'есе і кінасцэнарыю В. Маякоўскага «Клоп». «Клоп» як радыёспектакль прагучаў упершыню. Першай перадачай гэтай кампазіцыі была адзначана дваццаць чацвёртая гадавіна з дня смерці вялікага паэта. Радыёслухачы адгукнуліся на перадачу шматлікімі пісьмамі, у якіх не толькі дзякуюць таленавітым артыстам за выдатнае выкананне роляў, але і адзначаюць поўную своечасовасць пастаноўкі.

Сам В. Маякоўскі так ахарактарызаваў задачу, якую паставіў перад сабой, ствараючы п'есу «Клоп».

«Я супраць замены барацьбы сюсюкаючай літаратурнай размовай. Пасля сваёй працы ў «Камсамольскай праўдзе» я павінен сказаць: нягледзячы на тое, што гэта турботна, я не прывык да беспартыйнай размовы. Пакуль погань ёсць у жыцці, я яе ў мастацкім творы не амніструю».

Здымкі, якія вы бачыце на гэтай старонцы, паказваюць асноўныя моманты работы па стварэнню радыёспектакля «Клоп».

Пераклад п'есы Маякоўскага на беларускую мову зрабіў паэт Кастусь Кірэенка. Вось перакладчык чытае свой тэкст супрацоўнікам аддзела літаратурнага вяшчання М. В. Рымар (злева) і Е. К. Скачкоўскай.

Амаль адначасова з гэтым прагучалі першыя ўрыўкі з музычнага суправаджэння спектакля. Аўтар кампазіцыі і рэжысёр Усевалад Кухта (справа) і загадчык музычнага аддзела Д. А. Лукас прымалі самы актыўны ўдзел у рабоце маладога кампазітара Генрыха Вагнера.





# Маякоўскі



І вось пачаліся рэпетыцыі. Да ўдзелу ў спектаклі была прыцягнута вялікая група артыстаў мінскіх тэатраў. Як і ў звычайных тэатрах, радыёкампазіцыі рэпетыруюцца спачатку за сталом. Другі этап рэпетыцый — у студыях, перад мікрафонам. Выканаўцы трымаюць сябе тут, як на сцэне: рухаюцца, жэстыкулююць, суправаджаюць рэплікі выразнай мімікай. На здымку паказана адна з мікрафонных рэпетыцый — сцэна вяселля. У ёй заняты артысты (злева направа): Г. Галкін, Л. Чыжэўская, К. Сянкевіч, Р. Громава, заслужаны артыст рэспублікі Б. Янпольскі, народная артыстка рэспублікі В. Пола, артыстка Л. Андрэева, народны артыст рэспублікі В. Дзядзюшка, артысты В. Скакун і А. Новасельскі, народны артыст Саюза ССР, лаурэат Сталінскай прэміі Г. Глебаў, заслужаныя артысты рэспублікі Э. Шапко і С. Станюта. На асобным здымку, зверху — заслужаны артыст рэспублікі Б. Кудраўцаў рэпетыруе перад мікрафонам чытанне тэкста ад аўтара.




Афіша да прэм'еры камедыі «Клоп» В. Маякоўскага.



У час мікрафонных рэпетыцый за межамі студыі знаходзіцца рэжысёр і тонмайстар. Яны сочаць за гукам, які даходзіць да іх са студыі праз дынамік. Свае заўвагі выканаўцам яны таксама перадаюць праз мікрафон. І толькі пасля самага стараннага выканання артыстамі ўсіх указанняў рэжысуры робіцца запіс гуку на плёнку. Музыка, розныя шумы запісваюцца звычайна асобна і потым з дапамогай мантажа і перазапісу ўключаюцца ў кампазіцыю. Выканаўцы маюць магчымасць прысутнічаць пры мантажы плёнкі, праслухоўваць свае галасы і ў выпадку неабходнасці прачытаць тую ці іншую частку ролі па-новаму. На здымку, які зроблены ў апаратнай, паказаны эпізод мантажа з перазапісам гуку. Разам з аператарам А. А. Русаковай (крайняя справа) гучанне праслухоўваюць: артыстка Л. Андрэева, заслужаны артыст рэспублікі Б. Кудраўцаў і рэжысёр Б. Кухта.



Поўнасцю запісаная і змантыраваная радыёкампазіцыя праходзіць яшчэ адну кантрольную інстанцыю — мастацкі совет. Толькі пасля зацвярджэння мастацкім советам работа творчага калектыва лічыцца закончанай. Цяпер каробкі зролікамі плёнкі паступаюць у цэх аднаўлення гуказапісаў.

Пасля першай перадачы ў эфір радыёкампазіцыя «Клоп» была ўключана ў фанатэку. Для наступных яе перадач цяпер дастаткова двух зусім нескладаных аперацый. Дзяжурная па апаратнай камсамолка Соня Бачыла (гл. апошні здымак) або хто-небудзь з яе таварышаў па прафесіі моўчкі пакладуць ролікі плёнкі на дыскі магнітафонаў і па сігналу дыктара спакойна ўключаць матор. У гэты-ж самы момант многамільённая аўдыторыя радыёслухачоў зноў пачуе смелы, выкрываючы радыёспектакль. Мы зноў пачуем як-бы самога Маякоўскага.



Д. МІЛАШЭЎСКІ

# НА МАЛЫХ ЛІНІЯХ

Нарыс



Віктар Сяргеенкаў.

Быў выхадны дзень. З раніцы ішоў дождж, а пасля паўдня неба праяснела і на астраўках уцалелай мураўкі раса адразу высахла. Жыхары інтэрната павыходзілі на двор — арганізаваліся танцы.

Віктар стаяў, прыхіліўшыся спіной да маладой таполі і разгублена сачыў за парамі танцуючых. Танцаваць ён не ўмеў. Тынкоўшчыца Таня ў стракатай хусцінцы мільгала па кругу. У віктараў бок яна нават ні разу не зірнула. Ад гэтага на душы стала сумна.

Сёння хлопцу вельмі хацелася пабыць з Таняй адзін-на-адзін, развеяць не зусім вясёлыя думкі.

— Табе пісьмо, — сказаў Віктару Генадзі Скрыпка. Ты чаго надзьмуўся, як мыш на крупы?

— Так, — адказаў Віктар. Гаварыць яму не хацелася.

Пісьмо было з дому. Пісаў адзінаццацігадовы брат Коля. Віктар сеў на лаўку і прабег ліст вачыма:

«Я часта ўспамінаю цябе, — пісаў брат. — Адзнакі ў мяне добрыя і выдатныя за ўсю чвэрць. У Олі горшыя, хоць яна і сядзіць другі год у чацвёртым класе. Я, таксама, як і ты, вырашыў вучыцца на шафёра, або на камбайнера. Так што напішы мне падрабязна аб сваёй рабоце. На канікулах я прыеду да цябе, і ты пакатаеш мяне ў кабіне. Мама вышыла табе сарочку і хутка прышле».

Невясёлыя думкі апанавалі юнака. Пра што-ж напісаць дадому? Пра тое, як ён аж пяць месяцаў праходзіў стажыроўку?.. Не напішаш і пра першы самастойны выезд, калі ён памяў буферам крыло сустрэчнаму «Масквічу». Больш за ўсё Віктар баяўся тады, што яго прозвішча будзе красавацца на сцяне ў дыспетчарскай гаража пад крыўдным загалоўкам: «Спіс вадзіцеляў, якія парушылі правілы тэхнічнай эксплуатацыі машын». Праўда, у спіс ён не трапіў. Але нават у гэтым маладым шафёр бачыў дакор свайму сумленню: пашкадавалі за няволытнасць. А назаўтра раніцай начальнік гаража Іван Іванавіч Прокша ў час разнарадкі сказаў дыспетчару:

— Сёння, Аляксандр Аляксандравіч, адну бартавую машыну ў рэзерве пакіньце. Сёе-тое перавезці трэба на тэрыторыі гаража.

— Калі патрэбна, выдзелім, — дыспетчар абвёў позіркам вадзіцеляў і спыніўся на Віктару. — Бадай што, Сяргеенкава назначым...

Ні слова папроку не было сказана Віктару. Але ён зразумеў, чаму яго не выпусцілі з тэрыторыі гаража.

Непрыемна было хлопцу перавозіць дошкі з аднаго канца двара ў другі. Але нічога не зробіш! Добра, што хоць машыну не адабралі.

Сам сабе Віктар усё-ж усведамляў, што не ўсе тайнікі складанага металічнага нутра аўтамабіля дасканала вывучаны ім на шафёрскіх курсах і на стажыроўцы. З-за гэтага яму пакуль і не давяраюць самастойных рэйсаў. Сёння пашлюць вазіць гравій са станцыі Сляпянка, заўтра — падвозіць раствор на будаўнічую пляцоўку... А хіба гэта сапраўдная шафёрская работа? Хіба тут пакажаш усе вартасці сваёй прафесіі?

Праз некалькі дзён пасля таго вечара Віктар Сяргеенкаў ехаў на работу з нейкай незразумелай самотай на душы. З цэнтральнай магістралі аўтобус звярнуў на Лагойскі тракт. Міма вокан мільгалі ярказялёныя мяцёлкі маладых таполяў, мокрыя дахі дамоў. Было яшчэ даволі рана, але аўтобус з шумам абагналі тры «МАЗы» з прычэпамі.

«Мне-б на такой машыне! — з зайздрасцю паглядзеў Віктар услед магутным грузавікам. — Вырвешся на грэйдар, хоць і дзесяць тон лесу нагрузі — «Мазік» імчыць... толькі вецер свішча! А то з карытам гэтым соўгаешся ўзад-уперад».

Задумаўшыся, Віктар не прыкмеціў, як праехаў патрэбны прыпынак. Пакуль прышоў у гараж, разнарадка ўжо закончылася.

— Разам сёння ездзем, — прывітальнай усмешкай сустрэў яго самазвальшчык Генадзі Скрыпка. — Будаўнічы аб'ект расшырыўся, аднаму няўпраўна, вось і цябе назначылі.

— Разам, дык разам, — абыякава кінуў Віктар і накіраваўся да свайго самазвала. Гэтае прызначэнне яго не радавала. Тая-ж мітусня на машыне паміж кучамі бітай цэглы, як і на ўсіх будаўнічых пляцоўках. Падвязеш пясок ці раствор — цябе за аполкамі пашлюць. І так да самага вечара з дня ў дзень.

Віктар не разумеў настрою свайго напарніка Генадзія Скрыпкі. Вяртаецца ён, звычайна, у гараж узбуджаны, радасны. Перадае дыспетчару пуцёўку і «адкрыты ліст» з адзнакамі прараба аб выкананай рабоце і заўсёды дадае пры гэтым: «Зноў перакрыў, Аляксандр Аляксандравіч». А дыспетчар ды і начальнік гаража пры выпадку хваляць Скрыпку, ставяць у прыклад другім, быццам ён стотысячнік, як Сватко ці Паддубскі. А ў гэтага стотысячніка за паўтара года не наезджана і 30 тысяч кіламетраў.

Не, не разумеў Віктар Скрыпку. Калі яго так цэняць начальства, чаму-б яму не папрасіцца, каб перавялі на «вялікую лінію»? Цікавей-жа ездзіць у далёкія рэйсы, ды і заработак большы.

— Дык гэта тут ты і соўгаешся ўвесь час? — спытаў Віктар у Генадзія, калі яны прыехалі на тэрыторыю будаўніцтва 156-кватэрнага дома па праспекту імя Сталіна.

— Тут. Чацвёрты месяц, брат, штурмую.

Віктар насмешліва паглядзеў на таварыша.

— Ты гаворыш такім тонам, нібыта за гэтыя чатыры месяцы кругом зямлі аб'ехаў.

— А што? Ты вось зірні, які гмах вырас. Аж пяць паверхаў! — Генадзі паказаў на вялікі, ледзь не на цэлы квартал, будынак.

— Гэта, брат, не твая заслуга, а будаўнікоў...

— Ну і дзівак-жа ты, — абурыўся Генадзі. — А чым змацоўваецца цэгла? Бетонным растворам. Ясна? А хто гэты раствор дастаўляе каменшчыкам? А цэглу? А лесаматэрыялы?..

Падышоў прараб Мікалай Афанасьевіч Юрко.

— Аднаму з вас прыдзецца пяску падвезці з кар'ера, — прывітаўшыся, сказаў ён. — Думаю, самі дамовіцеся.

— Можа я, га? — Віктар запытальна паглядзеў на таварыша.

— Давай! Кар'ер грузчыкі пакажуць.

На сцяне будынка замільгалі постаці муляроў. Укладчык цэнтральнага пралёта Сідляроў склаў далоні рупарам і крыкнуў уніз:

— Варушыся, Генька! Запасу мала!

— Умомант, дзядзька Сідляроў! Толькі спраўляйцеся класці. — Генадзі ўключыў матор, і самазвал, пакалыхваючыся ў раз'езджаных калянах, накіраваўся да бетонамяшалкі. Спрытна зрабіўшы разварот, шафёр падагнаў машыну пад бункер, і ў кузаў цяжкім густым струменем паплыла шараватадымчатая маса. Не прайшло і пятнаццаці хвілін, як машына разгрузілася ля цэнтральнага пад'езда новага будынка.

Генадзі зрабіў ужо чатыры рэйсы да бетонамяшалкі, а Віктар усё не вяртаўся. Калі Генадзі разгружаў чацвёртую машыну, да яго падышоў адзін з грузчыкаў.

— Затрымаўся твой дружок, — сказаў ён. — Інспекцыя затрымала.

— Што здарылася?

— Калі мы ўжо везлі пясок, Віктар пачуў, што ў маторы нешта застукала. Неўзабаве машына і зусім спынілася. Віктар папоркаўся ў маторы — усё ў парадку, кажа. Завёў — гудзе, а ехаць не едзе. А тут якраз — аўтаінспекцыя. Выпіў, гавораць. Якраз каля закусачнай машына стала. Ледзь утлумачылі інспектару, у чым справа. А машына ўсёроўна стаіць.

— Вось табе і маеш... — хударлявы твар Генадзія спахмурнеў.

Затрымлівалася дастаўка пяску для раствору. Калі ў Віктара сур'ёзныя непаладкі з машынай, прыдзецца аднаму вазіць і пясок, і раствор, а тут яшчэ аконныя пераплёты трэба было-б падвезці.

— Сядай, паехалі! — паклікаў ён грузчыка.

Віктара засталі ля адкрытага капота аўтамашыны.

— Што ў цябе? — спытаўся Генадзі.

— Сам чорт не разбярэ. Паспрабую жыклёр прачысціць.

Выгляд у Віктара быў разгублены: поўныя шчокі яго смуглявага твару неяк расплыліся, смалістачорныя валасы пасмамі звісалі над вачыма.

Генадзі націснуў старцёр, прыслухаўся да матора.

— Матор траіць. Свяча згарэла Запасной няма?

— Няма.

— Тады скідай пясок і едзь у гараж... Або пачакай, — нейкая новая думка прышла Генадзію. — Я цябе на буксір вазьму, на першы час хоць крыху пяску прывязем.

Калі прыехалі на будаўнічую пляцоўку, Генадзі сказаў напарніку:

— Пачакай тут, а я падскочу ў гараж. Свірноўскі дасць свячу і без дэфектнай ведамасці.

Вярнуўся ён неўзабаве, але многа часу было патрачана дарэмна. На левым крыле дома канчаўся раствор. У сярэдняй частцы вось-вось трэба было ставіць аконныя пераплёты. Для бетонамяшалкі неадкладна патрабавалася кузаваў пяць пяску.

— Бачыш, з-за адной тваёй свячы дзесяткі людзей без работы... — папракнуў таварыша Генадзі, але вочы яго падбадзёрваючы міргнулі. — Давай цяпер наверстваць. Прывязем па разу раствору, а там я — па пясок, а ты рамы падкінеш. Пасля да кар'ера спяшайся.

Угнацца за Генадзіем было цяжка. Так хутка і спрытна манеўраваць у вузкіх праходах пляцоўкі, так дакладна падаваць кузаў пад бункер бетонамяшалкі і да месца выгрузкі — мог толькі добры майстар.

Віктару нямала клопатаў было на развароце. Шырыня праезда да будынка — не больш, як у паўтара корпуса машыны. Пакуль выведзеш задні скат на каляю, разоў дзесяць прыходзіцца па-

даваць машыну то ўзад, то ўперад.

У Генадзія-ж гэта атрымоўваецца проста і лёгка. Яго самазвал разварочваецца, літаральна, у тры прыёмы і на шпаркай задняй хуткасці пад'язджае да месца выгрузкі.

І тут Віктар зразумеў, чаму яго новы сябра з такой гордасцю гаворыць аб сваёй рабоце на гэтай цеснай будаўнічай пляцоўцы, чаму самазвальшчыка «малой лініі» Генадзія Скрыпку ставяць у адзін рад з лепшымі вадзіцелямі-стотысячнікамі.

На імгненне Віктар уявіў, як у розных кірунках па істужках асфальтавых і грэйдарных дарог імчацца грузавікі. Адны з іх вязуць у аддаленыя вёскі гідратурбіны для новых электрастанцый, другія — мінеральныя ўгнаенні для калгасных палёў, трэція — шматгадовыя ліпы для новых бульвараў і паркаў Мінска.

Недзе з далёкіх лясных дзялянак стотысячнікі Саўчанка, Паддубскі, Святко вядуць шматгрузныя «МАЗы» з бярвеннямі. Новым аб'ектам, якія ўзводзіць Будтрэст № 29, патрэбны сотні кубаметраў лесаматэрыялаў. І гэты матэрыял шаферы дастаўляюць своечасова. Але вось ужо ёсць цэгла, бетон, арматура. Цяпер у агульны канвеер будоўлі ўключаюцца шаферы «малой лініі». Ужо ад іх залежыць работа цесляроў, растворшчыц, муляроў, дапаможных рабочых.

І раптам у яго, віктаравага самазвала «ГАЗ-93», па недагляду спыніцца матор, пераплавіцца падшыпнік ці проста ён «заштопарыцца» з грузам на развароце. Зладжаны цыкл рабочых звенняў спыніцца. Спыніцца з-за аднаго чалавека, як гэта ледзь не здарылася раніцай, калі перагарэла свяча.

Вось чаму Віктар напружваў усю ўвагу, каб толькі не дапусціць промаху на развароце, на пад'ездзе. Хоць да канца рабочага дня нічога асаблівага не здарылася, ён не без зайздрасці паглядзеў на свой «адкрыты ліст», у якім прараб запісаў 16 рэйсаў. У Генадзія-ж іх было аж 24! І гэта не лічачы таго, што ён зрабіў лішнія чатыры рэйсы з-за віктаравай свячы.

З гаража хлопцы выходзілі разам. Параўняўшыся з закусачнай, Віктар кіўнуў:

— Зойдзем?

— Здаецца, няма прычыны, — неадабральна заўважыў Скрыпка.

— У мяне — праўда, няма. Хіба, што ад інспекцыі адчапіўся. Ну, а ты... 24 рэйсы. Ды і мяне так выручыў. Даведаўся-б пра свячу механік Свірноўскі — размова-б пайшла... Недалюблівае ён мяне.

— Думаеш? — усміхнуўся Генадзі.

І тое, што ён расказаў, прыемна здзівіла Віктара. Аказваецца, гэта сам механік Іосіф Свірноўскі, які з'яўляецца членам іх камітэта комсамола, якраз і настаяў, каб Генадзі працаваў з Віктарам Сяргеенкавым на адным аб'екце.

— Ён так і сказаў, — прызнаўся Генадзі. — «Сяргеенкаў — шафёр малады. Розумам ён за сваю прафесію, а душою — яшчэ не здолеў усвядоміць яе. А тут непаладкі здараюцца, ды і сяброў у яго няма...» Праўду сказаў Свірноўскі?

— Праўду, мусіць, — у задуменні прамовіў Віктар. — Ты добра зрабіў, што гэтую свячу без шуму дастаў. Я думаў ужо, што машыну адбяруць. Нядаўна карданны вал сарваўся, а тут, на табе, — свяча...

— Пры чым тут я? Свірноўскі адразу здагадаўся, каму гэтая свяча спатрэбілася. Выдаў без усялякіх затрымак...

— Ведаеш, Геня, я сёння вельмі многае зразумеў, — прыглушана сказаў Віктар.

Дома ён дастаў чысты аркуш паперы: вырашыў пра ўсё напісаць маці і брату.

**г. Мінск. Будтрэст № 29.**

**Б. МАРТЫНАЎ**

# ПЕРАД ВЯЛІКАЙ ДАРОГАЙ

Група студэнтаў зайшла ў пакой інтэрната, дзе, абхапіўшы галаву рукамі, сядзеў юнак. Перад ім на стале ляжалі чарцяжы і рэйсфедэры, а на скрутках ватманскай паперы пачка «Прыбоя». Юнак нават не падняў галавы.

— Хопіць ужо, Архімед! — сказаў чарнявы студэнт. — Усёроўна зямлі не перавернеш. Хадзем слухаць Чайкоўскага!

— Не пайду.

— Ну, як хочаш, мы пайшлі. Пра тваё адкрыццё ў вячэрніх газетах прачытаем.

Адкрыцця, зразумела, ніякага не здарылася, і Дзмітры Капранаў пашкадаваў, што не пайшоў на канцэрт. Вярнуўшыся з канцэрта, сябры абмяркоўвалі пытанне аб філасофскім сэнсе шостай сімфоніі Чайкоўскага, а ён думаў усё аб той-жа сістэме перадач канавакапальніка. Нібы адгадаўшы дзмітрыевы думкі, адзін з сяброў раптам звярнуўся да яго:

— Слухай, Дзіма, а твой канавакапальнік не загрузне ў балоце? Які ў яго будзе ціск на грунт?

Пра канавакапальнік і іншыя дыпломныя праекты гаварылі доўга, пакуль не перастаў звінець апошні трамвай.

Хто канчаў інстытут, той добра ведае, што такое дыпломная работа. Здадзены ўсе экзамены і праекты, няма паездак на практыку. Ты — на парозе новага жыцця... Але яшчэ трэба выканаць і абараніць дыпломны праект.

У гэтыя дні студэнтаў вызваляюць нават ад даручэнняў; яны не ходзяць болей і ў гурткі. Самае галоўнае зараз — дыпломны праект. А тады — і гэта ўжо зусім блізка, праз некалькі месяцаў — работа! Сапраўдная работа, не практыка, дзе ў цяжкі момант зможа падказаць патрэбнае рашэнне кіраўнік. Хутка сутыкнешся з такімі пытаннямі, адказы на якія, бадай, не знойдзеш пакуль і ў падручніку. Усё гэта хвалюе і радуе сённяшніх, як кажуць у інстытуце, «без пяці хвілін інжынераў».

Дзмітры Капранаў у ліку многіх юнакоў і дзяўчат праз некалькі месяцаў закончыць гідратэхнічны факультэт Політэхнічнага інстытута імя І. В. Сталіна. Гэты факультэт — самы малады ў інстытуце. Сённяшнія дыпломнікі праз

# Марыйскія народныя песні

У гэтым годзе ў Маскве ў Дзяржаўным выдавецтве мастацкай літаратуры выйдзе кніга марыйскіх народных песень у перакладзе на рускую мову Сяргея Падзелкава.

Ніжэй надрукавана некалькі песень з гэтай кнігі ў перакладзе на беларускую мову Анатоля Астрэйкі.

## Гасцінная

Цераз лес мы ішлі
І лугі
Пагасціць
Да сяброў дарагіх.

К вам прыходзіць мы будзем не раз,
І таму вам параду даём —
Каб к другому прыходу вы нас
Сустракалі з электрасвятлом.

Мы на конях
Да вас прыбылі,
Шлях ляжаў
Цераз горы й палі.

Дык зрабіце вы так, каб да вас
Не сцяжынкі, а рэйкі ляглі,
Каб у поездзе мы ў другі раз
Пагасціць к вам прыехаць змаглі.

Ой, вясёлыя
Ехалі мы,
На гармоніку граючы,
Ехалі мы.

Любы вашы нам поле, бары,
І мы просім вас, просім сябры:
Як прыедзем ізноў мы да вас,
Каб з аркестрам стрчалі вы нас!

* * *

Наш конь стальны ў палях грыміць,
Без краю поле, без мяжы.
Калі наш конь стальны грыміць,
Тады стары ўвесь свет дрыжыць.

## З надыходзячай вясной

З надыходзячай вясной
Дрэвы распускаюцца,
І пра нас, каханы мой,
Шэпты пачынаюцца.

Летам кветкі ўсе цвітуць,
У расе купаюцца,
І пра нас, мой дарагі,
Чуткі распускаюцца.

Прыйдзе-ж восені пара —
Лісце асыпаецца.
На вяселлі, як лісцё,
Плёткі разлятаюцца.

поўгода будуць працаваць на асушцы балот і арашэнні засушлівых земляў, на будаўніцтве гідравузлоў і гідраэлектрастанцый. Хіба гэта не цікава, не захапляюча!

Жыццёвы шлях Дзмітрыя Капранава, аднаго са шматлікіх дыпломнікаў, просты. Гэта самы звычайны шлях савецкага юнака. Разам з сябрамі Дзіма вучыўся ў школе. Бацькі яго жылі тады ў Падмаскоўі. Пасля вайны сям'я Капранавых пераехала ў Беларусь. Дзіма зноў сеў за парту ўжо ў пасёлку Малaрыта Брэсцкай вобласці. Тут ён закончыў дзесяцігодку, уступіў у комсамол.

Сябры па школе лічылі, што Дзіма абавязкова стане артыстам. Без яго не абыходзіўся ні адзін вечар мастацкай самадзейнасці. Ён спяваў, выконваў і камічныя і трагічныя ролі ў п'есах.

Але ў артысты Дзмітры не пайшоў, ён выбраў другую спецыяльнасць. У год заканчэння дзесяцігодкі абвясцілі набор на новы факультэт політэхнічнага інстытута, і юнак падаў туды заяву. Яго захапляла грандыёзнае будаўніцтва, якое разгарнулася ў нашай краіне.

Для будучай інжынернай работы патрэбна было авалодаць многімі ведамі. Вышэйшая матэматыка, фізіка, супраціўленне матэрыялаў, дэталі машын, гідратэхніка — усім гэтым тэарэтычным багаццем патрэбна было авалодаць дасканала, каб разлічваць на поспех у будучай справе. Спецыяльнасць механізатараў гідратэхнічных работ яшчэ вельмі маладая. Мала буйных спецыялістаў гэтай справы не толькі ў Мінску, але нават у Маскве і Ленінградзе.

Дзмітры ведаў гэта. Ён настойліва вывучаў усё, што зроблена ў гэтай галіне вучонымі і інжынерамі краіны. У бібліятэцы інстытута яго ведалі як аднаго з самых актыўных чытачоў. Юнак імкнуўся глыбей пазнаёміцца з разлікамі экскаватараў, плывучымі землясоснымі ўстаноўкамі, з фізічнымі асновамі рэзання грунтаў. Шмат чаго далі паездкі на практыку. Юнакі і сёння з гонарам успамінаюць аб тым, што яны прымалі ўдзел у зборцы пад'ёмнага абсталявання для шлюзавых варот Волга-Данского канала. Працавалі яны тады ў якасці слесараў-зборшчыкаў і, па сведчанню іх непасрэдных начальнікаў, як быццам, нядрэнна спраўляліся з работай.

Яшчэ больш дала другая практыка на будаўніцтве Горкаўскай ГЭС. Тут Дзмітры быў назначан памочнікам брыгадзіра экскаватарнага ўчастка. Сам ён праводзіў планава-папераджальны рамонт машын. Надоўга запомніўся студэнту такі выпадак. У трактараў «С-80», на якіх яму давялося працаваць, хутка выходзіў са строю сальнік бартавых фрыкцыёнаў. Практыкант доўга біўся ў пошуках патрэбнага рашэння. Але пошукі былі дарэмныя: толькі паставіш новую дэталь і ўжо зноў трэба яе змяняць. Тады на дапамогу яму прышоў брыгадзір слесараў-рамонтнікаў Міхаіл Рубцоў — стары, вопытны рабочы.

— Дзмітры Філіпавіч, — сказаў ён. — Я думаю, што канструкцыя сальнікаў мае хібы. Вось і ўсё тут...

Стары кадравы рабочы, які мог быць Дзмітрыю бацькам, называў яго поўным прозвішчам! Студэнту стала нават няёмка.

— У мяне такая прапанова, — працягваў Рубцоў, дастаючы паперку з чарцяжом. — Дапамаглі-б вы мне, як інжынер, скласці разлікі, ды і чарцёж трэба лепш зрабіць...

«Які я інжынер, — падумаў Дзмітры. — Смяецца ён з мяне, ці што?»

Але стары брыгадзір, відаць, не смяяўся. Дзмітры ўзяў у яго чарцёж. Сапраўды, прапанова слёсара абяцала эфект. Праз некалькі дзён практыкант прынёс Рубцову чарцяжы з поўнымі разлікамі. Ён сёе-тое папраўіў у гэтых чарцяжах. Так быў створаны новы сальнік. На першы погляд — дробязь! Але яна, гэтая дробязь, дапамагла сэканоміць шмат рабочага часу.

Практыка, першае знаёмства з сапраўднай работай пераканалі студэнтаў у тым, што жыццё, работа складаней за самыя цяжкія і адказныя тэарэтычныя курсы, якія слухалі яны ў інстытуце. Жыццё ідзе наперад, яно ставіць перад рабочымі, інжынерамі, вучонымі ўсё новыя і новыя задачы і пытанні!

... Здадзены апошнія экзамены за першы семестр пятага курса. З інстытуцкай вучобай закончана. Зараз прадстаіць апошняя праверка набытых ведаў — дыпломны праект. У якасці тэмы праекта ў Дзмітрыя Капранава канавакапальнік «Д-305». Такая машына ўжо выходзіць з канвеера Мінскага завода «Ударнік», і зусім магчыма, што іменна з такімі машынамі будзе мець справу праз некалькі месяцаў інжынер Капранаў.

Дзмітрыя не вельмі прыцягвала названая тэма. Ён не бачыў асаблівага інтарэсу ў апісанні ўжо існуючай машыны. Але сказаць аб гэтым кіраўніку факультэта ён не адважыўся.

Паміж экзаменамі і работай над дыпломным праектам бывае яшчэ адна невялікая практыка, так званая — пераддыпломная. Дзмітры праходзіў яе на «Ударніку», дзе выпускаецца тая машына, якую яму трэба апісаць. Галоўны канструктар прадпрыемства Глеб Максімавіч Каваленка ветліва сустрэў студэнта.

— І не трэба, малады чалавек, апісваць гатовую машыну, — падтрымаў ён дыпломніка. — Карысць з гэтага невялікая. Трэба, каб і студэнцкі праект што-кольвечы новае ўносіў у тэхніку...

Усё гэта было якраз тое, аб чым не раз думаў і сам Дзмітры.

— Я вам хачу прапанаваць новую тэму, — гаварыў Каваленка.— Універсальны канавакапальнік для пракладкі асушальнай і арашальнай сістэмы. Праект такой машыны ёсць ужо, але нас ён не задавальняе. Яго трэба перарабіць.

У Дзмітрыя ад радаснага хвалявання загарэліся вочы. Гэта, сапраўды, у тысячу разоў цікавей за апісанне старой машыны. А самае галоўнае, што новы праект патрэбны заводу, патрэбны народнай гаспадарцы. І ён згадзіўся адразу.

У тую ноч Дзмітры доўга не мог заснуць. Яму хацелася ўстаць і неадкладна пачаць работу. Назаўтра ён сказаў аб прапанове канструктара дэкану факультэта Аляксандру Аляксандравічу Паўлоўскаму.

— Давайце, у добры час! — сказаў дэкан. — Але не спяшайцеся, справа не лёгкая...

І вось работа... У канавакапальніка, праект якога робіць студэнт, патрэбна аблегчыць, зрабіць прасцейшым плуг і карчавацель. Машына-ж будзе працаваць на балотах, яна не павінна грузнуць! На такіх машынах робяць шырокія колы, каб паменшыць ціск на грунт, ставяць на колы яшчэ і пашыральнікі. Канструктары імкнуцца дасягнуць ціску масы канавакапальніка, якая раўняецца 150 грамам на адзін квадратны сантыметр. Такая машына, нават калі пераедзе чалавека, не прычыніць яму ніякай шкоды.

Прайшло ўжо шмат дзён, як Дзмітры засеў за праект. Папярэднія разлікі паказалі, што ўдзельны ціск можна знізіць да 0,15—0,20 кілограма на адзін квадратны сантыметр... Так абстаіць справа з праектам Дзмітрыя Капранава. І таварышы яго, і выкладчыкі выказваюць цвёрдую ўпэўненасць, што юнак дасягне поспеху.

Над новым праектам працуе не адзін Дзмітры. Іван Лазоўскі, будучы гідратэхнік-механізатар, удасканальвае вібратар канавакапальніка «КМ-800»; Іна Межанцава знайшла арыгінальнае рашэнне для палепшання канавакапальніка «КОР-500»...

Вучоба заканчваецца. Яшчэ адзін экзамен — абарона праекта, і выхаванцы інстытута пойдуць на самы адказны экзамен — на самастойную работу на шырокіх прасторах Радзімы.



**Дзмітры Капранаў і Іна Межанцава за работай над дыпломнымі праектамі.**

Фото М. Мінковіча.

**У адным з пакояў Інтэрната.** На здымку (злева направа): **Дзмітры Кулага, Ганна Баско, Дзмітры Капранаў, Іна Межанцава, Іван Маркушэўскі і Уладзімір Чарняўскі.**



**Галоўны канструктар Мінскага завода «Ударнік» Г. М. Каваленка кансультуе Дзмітрыя Капранава па дыпломнай рабоце.**





**Майскі сад**
**прыгожы гэткі,**
**Усюды —**
**кветкі,**
**кветкі,**
**кветкі.**
Да сваёй сяброўкі
**Света**
**Кажа ціха,**
**па сакрэту:**

**— Годзе тут сядзець...**
**Хадзем.**
**Сёння**
самых лепшых кветак
Мы для нашых мам нарвем...

Тэкст Артура Вольскага.
Фото А. Дзітлава.



**У новым басейне Беларускага дзяржаўнага інстытута фізічнай культуры. Заняткі па плаванню,**

**Фото А. Дзітлава,**

**В. ТРЫХМАНЕНКА**




Пасля некалькіх практычных заняткаў Шура Гапеева пачала сумнявацца: ці будзе з яе калі-небудзь радыстка? Вельмі-ж ужо марудна ідзе вучоба...

У Мінскі абласны радыёклуб Шуру прывёў выпадак. Запісваліся сяброўкі з завода — і яна запісалася. «Цяпер я простая мантажніца, а то буду яшчэ і радыстка», — падумала дзяўчына. — Другая спецыяльнасць, ды такая яшчэ не зусім звычайная, у жыцці не пашкодзіць».

Але справа аказалася не простай. Іншы раз наўдачы даводзілі Шуру да таго, што яна гатова была кінуць заняткі. І сапраўды: навошта марнаваць час, псаваць нервы сабе і другім, калі ў цябе няма да справы ніякіх здольнасцей! Прыняўшы такое рашэнне, дзяўчына ішла дамоў расхваляваная. На другі-ж дзень пад вечар яна зноў з'яўлялася ў радыёклуб. Не! Цяпер кінуць ужо немагчыма! Трэба быць настойлівай, трэба знайсці ў сабе сілы перадолець цяжкасці. Яна-ж камсамолка!

У класе за сталамі сядзяць юнакі і дзяўчаты — усе ў навушніках, з алоўкамі ў руках. Інструктар дае тэкст. Зумер папісквае бясконцай чарадой кропак і працяжнікаў. Трэба прыняць перадачу і запісаць. І на гэты раз у Шуры не абыйшлося без памылак... А што-ж будзе, калі пачнуць перадаваць тэкст з сапраўднай хуткасцю?

— Вы спяваеце? — пытаецца інструктар.

Так, Шура спявае, бо хто-ж з маладых савецкіх людзей не любіць песню!

— Дык вось, — прадаўжае інструктар, — у кожнай песні, як вядома, ёсць матыў. Свой асаблівы матыў ёсць і ў кожнай літары, якая перадаецца азбукай Морзэ. Напрыклад, літара «ф» перадаецца так: кропка-кропка-працяжнік-кропка. Зумер спявае гэтую літару так: ці-ці-та-ці. Вельмі падобна на «цёця Каця». Правільна?

— Ой, і сапраўды...

— Або лічба сем, напрыклад: та-та-ці-ці-ці. «Дай, дай закурыць». Старайцеся запомніць матыў, тады вы будзеце адразу-ж пазнаваць літары.

Вось яно што! А Шура імкнулася запомніць літару па колькасці кропак і працяжнікаў! Таму яна і блытала іх вельмі часта.

Гэта было новым адкрыццём для Шуры Гапеевай. Пазней ёй адкрылася многа іншых таямніц радыё. Яна горача палюбіла сваю новую справу, пачала авалодваць ёю не толькі з настойлівасцю, але і з вялікай цікавасцю.

Сумненні наконт сваіх здольнасцей Шура даўно ўжо выкінула з галавы. Яна навучылася прымаць вялікія і цяжкія тэксты без ніводнай памылкі, а гэтымі днямі здала экзамен на трэці разрад па радыёсувязі.

У Мінскім абласным радыёклубе ДТСААФ зараз займаецца многа юнакоў і дзяўчат. Некаторыя з іх палюбілі радыё ўжо тут, большасць-жа прышла ў клуб з даўняй марай, якая нарадзілася, магчыма, яшчэ ў дзяцінстве. Сярод членаў радыёклуба — рабочая моладзь, студэнты, школьнікі. Ёсць і людзі старэйшага ўзросту.

Кароткахвалявік — гэта чалавек, які некалькі гадзін усёй душой, усімі сваімі імкненнямі жыве ў эфіры. І некалькі гадзін гэтага дзіўнага вандравання ў далёкія куткі роднай зямлі і за яе межы, сустрэчы з сябрамі, якіх ніколі не бачыў у твар, — гэтыя некалькі гадзін з'яўляюцца вышэйшай узнагародай кароткахвалевіку за яго крапатлівую працу на працягу многіх дзён, тыдняў і месяцаў.

Ёсць мясціны, з якімі з Мінска звязацца вельмі цяжка. Напрыклад — Владзівасток. Кароткахвалевіку значна лягчэй наладзіць сувязь з Афрыкай ці Поўднёвай Амерыкай, чым з нашым Владзівастокам. Многія сілы зямлі і эфіра, часам яшчэ невядомыя, уплываюць на кароткахвалевую радыёсувязь.

Член радыёклуба камсамолец Валянцін Бензар звязаўся з Владзівастокам два разы. Ён рашыў вельмі цяжкую і складаную задачу. Трэба прыняць пад увагу, што Валянцін Бензар — кароткахвалявік малады: яму 18 год, ён вучыцца ў X класе 23-й сярэдняй школы горада Мінска.

У той вечар Валянцін прышоў на калектыўную радыёстанцыю клуба задумлівы і маўклівы.

— Чаго спахмурнеў, хлопец? — жартаўліва спытаў начальнік радыёстанцыі Яўгені Аляксеевіч Хадыка.

— Ды нічога, проста так, — няпэўна адказаў юнак.

Валянцін надзеў навушнікі і паклаў руку на ключ. Нагрэліся лямпы. Прыёмнік нібыта прачнуўся, адкашляўся і адразу схапіў характэрны, звыклы для вуха радыста шум эфіра. Валянцін хутка запрацаваў ключом:

— Усім... усім... усім... Гаворыць Мінск. Выклікаю кароткахвалевікоў для сувязі.

Адказалі многія гарады — Днепрапятроўск, Одэса, Тула, Сафія, Будапешт. І раптам у рознагалосую тканіну эфіра ўвайшла ледзь улоўная ніточка кропак і працяжнікаў. Гэта былі пазыўныя Владзівастока. Праз некаторы час сігнал, што даляцеў сюды, за тысячы кіламетраў, згубіўся. Потым з'явіўся зноў.

Валянцін затаіў дыханне і прыняў радыёграму далёкага калегі. Так была ажыццёўлена гэтая цяжкая, як кажуць мінскія кароткахвалевікі, сувязь.

Пазней Валянцін Бензар наладзіў сувязь з Ташкентам. На гэты раз ён працаваў ужо не азбукай Морзэ, а мікрафонам — перадаваў у эфір гутарковую мову. Вядома, што пры мікрафоннай сувязі магутнасць перадатчыка зніжаецца, прыкладна, у чатыры разы, тым не менш, размова з Ташкентам адбылася. Гэтую, таксама вельмі цяжкую сувязь да Бензара мінскім кароткахвалевікам не ўдавалася наладзіць на працягу пяці год.

Амаль штодзённа бывае на калектыўнай радыёстанцыі высокі малады чалавек у капелюшы і шэрым паліто. Гэта — студэнт Політэхнічнага інстытута імя Сталіна, адзін з самых актыўных радыёаматараў Георгі Радзіон. Прыёмнік, на якім ён працуе, Георгі сканструяваў і пабудаваў сам. Радыёаматар распрацаваў уласную схему, ужыўшы для яе так званыя пальчакавыя лямпы — вельмі эканамічныя ў спажыванні току.

Камсамолец Георгі Радзіон, як і многія яго таварышы з Мінскага абласнога радыёклуба, удзельнічае ў пастаянных спаборніцтвах кароткахвалевікоў Савецкага Саюза. Па ўмовах гэтых спаборніцтваў неабходна наладзіць сувязь не менш як са ста абласцямі СССР. На ліку ў Радзіона — чэмпіёна свайго клуба — 104 такія сувязі.

У Політэхнічным інстытуце імя І. В. Сталіна Георгі абсталяваў радыёвузел і ўзначаліў яго работу. Інстытуцкую інфармацыю, трансляцыю канцэртаў і спектакляў слухаюць цяпер многія студэнты.

Вечарам і ноччу, калі звычайна працуюць кароткахвалевікі многіх краін свету, у эфіры, адбываюцца цікавыя сустрэчы. Часта яны паўтараюцца, і тады нараджаецца сяброўства людзей, якія не пазналі-б адзін аднаго ні па знешняму выгляду, ні нават па голасу, калі-б ім давялося сустрэцца не ў эфіры, а на зямлі.

Аднойчы фрэзероўшчыца мотавелазавода член Мінскага радыёклуба Ольга Вераб'ёва наладзіла сувязь са сталіцай Чэхаславакіі Прагай. «Добры дзень, дарагі таварыш! — адказаў з Прагі рабочы Іосіф. — Чую добра. Дзякуй, што выклікалі. Жадаю ўсяго найлепшага. Спадзяюся зноў сустрэцца ў эфіры». І сустрэча ў эфіры паўтарылася.

Каля 7 тысяч сувязей наладзілі мінскія кароткахвалевікі. Яны размаўляюць з радыёаматарамі Польшчы, Чэхаславакіі, Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, Румыніі, Балгарыі.

Але не ўсе ведаюць, напрыклад, нямецкую мову! Як-жа тут размаўляць?

Існуе міжнародны радыёкод. Яго аднолькава добра разумеюць кароткахвалевікі немцы, чэхі, палякі, кітайцы, англічане, італьянцы. Асабліва выразна і ясна гучаць, перакладзеныя на міжнародны код словы: «Савецкі Саюз», «Таварыш», «Мір».

... Вечарэе. Нібыта жадаючы падоўжыць радасны вясновы дзень, ярка ўспыхваюць тысячы агнёў на вуліцах і плошчах Мінска. У гэты час да правага крыла опернага тэатра, дзе знаходзіцца Мінскі абласны радыёклуб, групамі і па адным ідуць людзі. Гэта пераважна юнакі і дзяўчаты, — рабочыя, студэнты, школьнікі. А вось ідзе чалавек год каля 55 з сівымі скронямі. Ідзе павольна, бо вымушаны абапірацца на дзве мыліцы. Інвалід Вялікай Айчыннай вайны Міхаіл Аляксеевіч Бруевіч — адзін з старэйшых радыёаматараў. У клубе ён вядзе тэхнічную кансультацыю. Яго ведаюць і звяртаюцца да яго па пошце сотні сельскіх радыёаматараў з Беларусі, Украіны і нават з Падмаскоўя. Міхаіл Аляксеевіч акуратна і падрабязна адказвае на ўсе іх пытанні.

... З нашай роднай рускай зямлі быў пасланы ў эфір першы ў свеце радыёсігнал. 7 мая 1895 года геніяльны вынаходца А. С. Папоў адкрыў чалавецтву новую эру — эру бяздротавага тэлеграфа. Савецкія людзі дасягнулі выдатных поспехаў у справе развіцця радыё. Сёння ў эфір ляцяць перадачы тысяч радыёстанцый — шырокавяшчальных, спецыяльных, аматарскіх. Чуваць голас і перадатчыка Мінскага абласнога радыёклуба:

— Усім... усім... усім... Выклікаю кароткахвалевікоў!

На пярэднім плане: **радыёаматар В. Мартынаў і начальнік радыёстанцыі Я. Хадыка** (справа).
Фото В. Волгіна.



# Вершы ДЖАНІ РАДАРЫ



Джані Радары — вядомы італьянскі паэт-комуніст, рэдактар дзіцячай газеты «Піоньере». Ён з'яўляецца аўтарам аповесці «Прыгоды Чыпаліна». У 1952 годзе ў Рыме ў выдавецтве «Уніта» вышаў яго зборнік «Цягнік вершаў». Ніжэй мы друкуем некалькі вершаў з гэтага зборніка ў перакладзе з італьянскай мовы Я. Семяжонава.

## Чым хто пахне?

Асобная справа —
І пахі асобыя.
Панюхай: пякарня —
Папахвае здобаю.

Рэжуць калоду
На дзве палавіны, —
Пахне смалой
Ды сырым пілавіннем.

Пахне маляр
Шкіпідарам сярдзітым,
Шкляр і сталяр —
Ацэтонам і кітам.

Куртка шафёра
Прапахла бензінам.
Блуза рабочага —
Маслам машынным.

Пахне пчаляр
Верасамі і мёдам.
Доктар у белым —
Эфірам і ёдам.

Свежай раллёй,
Мурагамі і потам
Пахнуць сяўцы і касцы
За работай.

Пахне рыбак
Багавіннем глыбокім.
Толькі без пахаў
Паны-лежабокі.

Нават каб вымачыў
Пана ў духах,
Кепскі-б ад пана
Струменіўся пах.

## Неапаль без сонца

«Наведаць Неапаль — заглянуць у рай.
Зірні на Неапаль і — памірай!» —
Так прыказка кажа. Ды прыказка гэта
Не складзена ў вулачцы Паланета,

Замшэлай, дзе толькі трушчобы ды плесень:
Без неба, без сонца, без мора і песень.

Хто-ж песню спяе, хоць праз слёзы, ад гора,
Табе, мой Неапаль, без сонца і мора?

## Суботні вечар

У белым канверце — тыднёвая плата.
Тата злічыў і сказаў: — Не багата!

А мама сказала: — Ніяк не разжыцца.
Даўгі, а да рысу — не дакупіцца.

Выгадвай на ўсім: на сабе, на дзіцяці...
Тата ўздыхнуў і прайшоўся па хаце.

І нам не гуляецца: чуем — размова,
Хоць мама, чамусьці скупая на словы,

Пагладзіла нас і гаворыць да таты:
— Пускаць у кіно іх адных — пазнавата...

А мы разумеем: ва ўсім вінавата
У белым канверце — тыднёвая плата.

## Наша віно

Наша віно — пашукаць пачастунак!
Смак асаблівы, адменны мацунак!
Белы партвейн ці наліўка са слівы —
Вытрымка, пах і разліў асаблівы.

З нашым віном не шальмуйся, чужынец!
Перадасі — атрымаеш гасцінец:
Дур у мазгі, балбатню на язык.
Бойся віна, хто к віну не прывык!

Дзюбне прыезджы — давай выхваляцца:
«Я — верхавод, італьянская нацыя!
Я — гаспадар над усе Апеніны».
Вось як умеюць нашыя віны!

Эх, і дарэчы-б такім верхаводам
Збавіць гарачку прымочкамі з лёдам
І аб'явіць, каб ім стала вядома:
— Госці, пара выбірацца дадому!

# ВІТАЛІ БЕЛЯКОЎ

Яшчэ некалькі год таму назад Віталі Белякоў быў студэнтам акторскага факультэта Дзяржаўнага інстытута тэатральнага мастацтва ў Маскве.

Калі-ж у Віталія Белякова быў у руках дыплом на самастойную творчую работу, ён, пакінуўшы сцены інстытута, прыехаў у Мінск. Як роднага прыняў яго калектыў Рускага драматычнага тэатра. Старэйшыя таварышы хваляваліся не менш, чым ён сам, у час яго дэбюта ў спектаклі В. Шэкспіра «Дванаццатая ноч». Уся цяжкасць заключалася ў тым, што даводзілася ўпершыню быць рамантычным героем. У інстытуце Белякоў у большасці выконваў ролі сваіх сучаснікаў, думкі і пачуцці якіх так добра знаёмы.

Перад выхадам на сцэну хтосьці з актораў сказаў: «Смела ідзі насустрач цяжкасці. Уцяшаць няма сэнсу, бо без хвалявання няма сапраўднага мастацтва».

Работа маладога актора заслужыла станоўчую ацэнку мастацкага савета тэатра. Услед за гэтым была выканана роля Пеці Якаўлева ў п'есе В. Розава «Яе сябры». У гэтым спектаклі былі заняты выключна маладыя акторы тэатра. Пастаноўшчыкам быў рэжысёр-дыпламант А. Нікіцін. Маладзёжны спектакль таксама ўдаўся.

Але надзвычай адказная работа выпала Віталію Белякову ў п'есе А. Якабсона «Шакалы». У гэтым спектаклі былі заняты лепшыя акторскія сілы тэатра. Для таго, каб не выбівацца з агульнага ансамбля, Белякоў павінен быў выканаць ролю Гары бездакорна. Калі пачуцці Пеці блізкія і зразумелыя кожнаму маладому савецкаму чалавеку, дык ідэалы куклуксклапаўца Гары, сына прафесара, які вынаходзіць радыёактыўны парашок «срабрысты пыл» для масавага знішчэння людзей, глыбока варожыя маладому чалавеку нашай Радзімы. Выканаўцу трэба было намаляваць мярзотны партрэт шакала.

Цэлыя тыдні праходзілі ў бясконцых пошуках. Белякоў перачытваў артыкулы аб Амерыцы, успаміны М. Горкага, В. Маякоўскага, чытаў матэрыялы, апавяданні з жыцця сучаснай Амерыкі.

Вялікую ўвагу ў рабоце над вобразам актор аддаў вонкаваму малюнку. Яму хацелася, каб кожны жэст, кожная інтанацыя голаса дапамагалі раскрыццю вобраза

За некалькі дзён да спектакля Віталі пачаў хвалявацца. І хоць ён быў упэўнены, што цвёрда ведае тэкст і мізансцэны, хваляванне не праходзіла. Хацелася дадаць да вобраза яшчэ штонебудзь ярчэйшае за тое, што ўжо было зроблена. Толькі пасля таго, як з'явіліся натрэніраванасць і Белякоў змог у памяці прайсці ролю, ён станавіўся спакойным. Ён не выходзіў на сцэну, папярэдне не прайшоўшы ў памяці ўвесь спектакль. Думаў аб многім. Вось, напрыклад, сцэна смерці Гары. Гары атруціўся срабрыстым пылам. Для таго, каб паказаць атручанне, трэба было выпрацаваць асобныя пластычныя рухі. На першых рэпетыцыях нічога не атрымлівалася. І Віталі Белякоў раіўся, гутарыў з урачамі, з выкладчыкамі мединстытута, распытваў, што паралізоўвае яд у першую чаргу, якімі рухамі выяўляюцца сударгі. Аднак тое, што ён рабіў на сцэне, было не простым паўторам пачутага.

На старонцы праграмы спектакля «Шакалы» рэжысёр В. Фёдараў зрабіў кароткі, але шчыры надпіс маладому актору: «Рад павіншаваць з добрай і яркай работай».

Складанай была таксама роля Гараніна ў п'есе В. Гусева «Вясна ў Маскве» ў пастаноўцы маладога рэжысёра І. Лакштанава. Ролю Гараніна выканаў Віталі Белякоў.

Да кожнага спектакля актор рыхтуецца з усёй адказнасцю і сур'ёзнасцю, стараючыся, каб кожная яго новая роля была не простым паўторам, не простай копіяй учарашняй, а новай, яшчэ больш дасканалай работай.

За час работы ў тэатры Віталем Беляковым сыграна больш 12 розных па характару і тэмпераменту роляў. У кожнай з іх ён змог знайсці нешта сваё, асаблівае, уласцівае толькі яго акторскай індывідуальнасці. Апошняй работай яго з'яўляюцца ролі Жоры Пацалуйкі ў п'есе В. Мінко «Не называючы прозвішчаў» і князя Ганцімурава ў п'есе І. Панова і А. Сцяпанава «Порт Артур».

**І. ДАБРАЛЮБАЎ.**



На здымку: **В. Белякоў** (злева) **у ролі Жоры Пацалуйкі і Я. Карнаухаў у ролі Максіма Качубея.**
Фота Г. Бугаенкі.

**П. СОНЦАЎ,**
**дырэктар Навукова-даследчага інстытута педагогікі Міністэрства асветы БССР**

# Пагаворым аб выхаванні, таварышы

Таму, хто ездзіць у трамваях, тралейбусах, аўтобусах Мінска, часта даводзіцца наглядаць вельмі непрыемныя сцэны: кандуктар настойліва патрабуе ад маладых людзей узяць праязны білет, а яны адмаўляюцца, абражаюць кандуктара. Пасажыры ў такім выпадку вядуць сябе па-рознаму: адны абураюцца паводзінамі маладых людзей, другія падтрымліваюць іх. (Моў, навучэнцы, што з іх возьмеш!) Ім не прыходзіць у галаву, што кандуктар, патрабуючы ўзяць білеты, адстойвае дзяржаўныя інтарэсы. Маладыя людзі, якія ўступаюць у спрэчку з кандуктарам, акрамя ўсяго іншага, прывыкаюць пагардліва адносіцца да чужой працы, да чалавека наогул.

Ёсць нямала і другіх прыкладаў. Часта моладзь, а часам і дзеці, нетактоўна вядуць сябе ў грамадскіх месцах, абражаюць старэйшых, парушаюць правілы соцыялістычнага агульнажыцця. Усё гэта выклікае ў нас законнае абурэнне. Але, справядліва абураючыся, мы часам і не задумваемся над той доляй віны, якая падае на нас саміх.

Нярэдка замест таго, каб паправіць маладога чалавека, які робіць непрыгожы ўчынак, мы, у лепшым выпадку, гаворым: «Куды толькі глядзіць міліцыя!» Ёсць у нас і такія «добрыя дзядзі», якія частуюць дзяцей папяросамі, прадаюць ім недазволены тавар (папяросы, гарэлку), водзяць сваіх дзяцей глядзець фільмы, у змесце якіх яны не змогуць правільна разабрацца.

Могуць сказаць — усё гэта дробязі! Не, няпраўда. У справе выхавання дробязей няма, тут усё важна. Да чаго могуць прывесці такія «дробязі» мы раскажам ніжэй.

Галоўную ролю ў выхаванні дзяцей і моладзі адыгрывае сям'я і школа. Аднак гэта не азначае, што грамадскасць павінна стаяць у баку ад выхавання. Нашы комсамольскія, профсаюзныя і іншыя грамадскія арганізацыі абавязаны глыбока займацца выхаваннем падрастаючага пакалення, таму што выхаванне ў соцыялістычным грамадстве не можа быць асабістай справай.

Давайце пагаворым аб ролі грамадскай думкі ў выхаванні дзяцей і моладзі.

Наша моладзь — сапраўды дастойная змена старэйшага пакалення. Мы ганарымся тым, што наша савецкая сям'я, наша школа, піянерскія і комсамольскія арганізацыі выхоўваюць мужных барацьбітоў за пабудову комунізма.

Тым больш крыўдна, калі ў асяроддзі нашай моладзі з'яўляюцца людзі некультурныя, эгаісты. Дзіця, вядома, не нараджаецца з адмоўнымі рысамі характару. Гэтыя рысы дзеці набываюць пры няправільным выхаванні. Хто-ж у гэтым вінаваты, хто павінен адказваць за тое, што сярод маральна прыгожай моладзі вырас урод, чалавек без чэсці і сумлення? Адказ просты: сям'я, школа і грамадскія арганізацыі, якія роўнадушна наглядалі за фактамі няправільнага выхавання.

У адной са школ Мінска навучаецца трое дзяцей адной сям'і: два хлопчыкі і дзяўчынка. Іх прозвішча Шостак. Дзяўчынка трэці год сядзіць у першым класе. Хлопчыкі за пяць гадоў вучобы не змаглі перайсці ў трэці клас. У чым тут справа? У дзяцей няма бацькі, яны жывуць з маці. Але маці амаль ніколі не бывае дома. Яна, як кажуць, жыве «асабістым жыццём». Дзеці там прадастаўлены самі сабе. Замест таго, каб вучыць урокі, яны праводзяць цэлыя дні на вуліцы, ля кіно або, горш таго, ля піўных ларкоў.

Школа не засталася роўнадушнай да лёсу гэтых дзяцей, але тут яна аказалася адзінокай, бо грамадскія арганізацыі мала цікавяцца пытаннямі выхавання. Два гады назад школа звярнулася да адміністрацыі і мясцкома Мінскага мясакамбіната, дзе тады працавала маці дзяцей, з просьбай уздзейнічаць на яе. Мясцком і адміністрацыя неадкладна «рэагавалі» на просьбу школы, яны... звольнілі Шостак з работы, каб не мець лішніх клопатаў.

Чыноўнікі з мясакамбіната ні на мінуту не задумаліся над тым, якую шкоду яны нанеслі дзецям. Грамадзянка Шостак, вядома, неўзабаве працавала ўжо у другім месцы і таму на пэўны час выйшла з-пад грамадскага кантролю, а дзеці яе так і засталіся без нагляду. Віна тут кладзецца і на комсамольскую арганізацыю школы, якая не ўзяла дзяцей пад свой кантроль, не дапамагла ім у вучобе.

А вось яшчэ адзін выпадак. З сёмага класа адной са школ Мінска выбыла вучаніца Каця Н. А неўзабаве народны суд разбіраў брудную справу нейкага грамадзяніна, які маральна разлажыўся. У справе была замешана і Каця Н.

Як-жа гэта магло здарыцца?

Пры расследаванні аказалася, што каціна маці, атрымліваючы на дзяцей вялікую пенсію, зусім не ўдзяляе ўвагі іх выхаванню. Яна часта прыходзіць дадому п'яная і прыводзіць на кватэру сваіх знаёмых. Дзеці з ранніх год вымушаны быць сведкамі дзікіх оргій. Усё гэта не магло не адбіцца на Каці. У пачатку сёлетняга навучальнага года Каця пачала прапускаць па 2—3 дні заняткаў. На гэта ніхто асаблівай увагі не звярнуў. Аказваецца, дзяўчынка знайшла дрэнную кампанію, якая і давяла яе да суда.

Вядома, у сумнай справе Каці Н. вінавата ў першую чаргу школа, якая не здолела своечасова і рашуча ўмяшацца ў яе паводзіны. Аднак вінаваты тут і грамадскія арганізацыі. У свой час школа звярнулася за дапамогай да дырэкцыі прадпрыемства, дзе працуе грамадзянка Н. Дырэктар выклікаў работніцу і прыгразіў звольніць яе з работы. Вядома, такая пагроза не магла падзейнічаць, а дырэкцыя хутка забылася аб просьбе школы. А хіба не ведалі аб паводзінах грамадзянкі Н. суседзі па дому, па кватэры? Ведалі, яны нават абураліся яе паводзінамі, але лічылі, што «іх хата з краю».

Неўмяшанне ў сямейныя справы грамадскіх арганізацый часта прыводзіць да таго, што маладыя людзі робяць злачынствы, пападаюць пад суд.

Вось перад следчым стаіць юнак год 18, вучань Мінскай школы Міхаіл Б. Ён абвінавачваецца ў хуліганстве. У час допыту высвятляецца, што Міхаіл Б. прыцягваецца да крымінальнай адказнасці ўжо другі раз. Хто-ж выхаваў гэтага злачынцу?

Бацька Міхаіла — юрыст, маці — урач. Бацька выключна жорсткі чалавек, маці наадварот — вельмі сардэбольная. Яшчэ тады, калі Міхаіл быў маленькім, бацька збіваў яго да поўсмерці. Пад уплывам страху Міхаіл Б. сам зрабіўся жорсткім. Раскazваюць, што ў дзяцінстве ён мучыў жывёл, забіваў іх. На гэта, вядома, ніхто не звяртаў увагі, у тым ліку і школа. Класныя настаўнікі лічылі, што Міхаіл вучыцца добра, і няма чаго дарэмна хвалявацца. І раптам Міхаіл зрабіў злачынства, папаў пад суд. Для школы гэта было нечаканасцю. Але калі-б класны кіраўнік лепш ведаў сваіх вучняў, калі-б піонерская і комсамольская арганізацыі, якія ведалі пра жорсткасць Міхаіла, своечасова звярнулі на гэта ўвагу, дык агульнымі намаганнямі ўсёй школы можна было-б даць іншы выхад энергіі Міхаіла.

Па-казённаму аднесліся да выхавання сына бацькі. Яны, вядома, ведалі аб схільнасцях Міхаіла, але нічога не рабілі, каб перавыхаваць хлопчыка. Больш таго, калі злачынства было зроблена, бацькі ўсялякімі шляхамі спрабавалі выратаваць свайго сына. Хутка Міхаіл быў на волі, а потым зноў прадстаў перад судом. Маці Міхаіла цяпер развівае кіпучую дзейнасць па выратаванню сына ад пакарання. Ёю распрацаваны цэлы план паходу супраць народнага суда. Не выключана магчымасць, што ёй зноў пашанцуе агарадзіць сына ад пакарання.

Узнікае пытанне, а чаму маўчыць калектыў медыцынскіх работнікаў, у якім працуе маці Міхаіла Б.? Як яны могуць цярпець у сваім асяроддзі чалавека, які свядома выхоўвае злачынцаў? Як відаць, і яны выхаванне дзяцей лічаць асабістай справай, забываючы, што толькі грамадская думка, толькі грамадскае ўмяшанне можа ўздзейнічаць на людзей, якія забываюць пра свой абавязак.

Мы знарок узялі такія факты, каб на іх паказаць, як далёка можа завесці неўмяшанне грамадскасці ў справу выхавання дзяцей. Але трэба памятаць, што кожнае нават самае малое адхіленне ад нормаў соцыялістычнай маралі з боку асобных юнакоў і дзяўчат павінна выклікаць трывогу ў грамадскіх арганізацыях.

Савецкая рэчаіснасць не мае глебы для росквіту паразітызма. Але і ў нас ёсць факты, калі асобныя бацькі, празмерна «шкадуючы» сваіх дзяцей, выхоўваюць з іх паразітаў, барчукоў.

У Мінску жыве Мікалай П. Яго маці — простая работніца. Мікалай — адзіны яе сын. За ўсё жыццё, а Мікалаю ўжо 20 год, ён ніколі не схадзіў у магазін, не выпаліў у печы. Нават дровы вымушана калоць маці. Можа сын заняты вучобай? Не, у школе ён вучыўся дрэнна, ледзь-ледзь пераходзіў з класа ў клас.

Усё-ж атэстат сталасці Мікалай атрымаў. Паўстала пытанне аб далейшым лёсе выпускніка. Але ён пра гэта і не думаў. А маці па-ранейшаму лічыла яго хлапчуком і ўсё рабіла за яго. Нават дакументы сына яна сама аднесла ў інстытут. Але сын праваліў экзамены. Ні маці, ні сын не падумалі, што лепшай школай для яго з'явіўся-б рабочы калектыў. Але маці не хацела і слухаць пра завод. Яшчэ больш яна баялася, каб сына не прызвалі ў армію: ён-жа не вытрымае дысцыпліны. Нарэшце і гэтая перашкода была абыйдзена. І вось Мікалай зажыў тыповым паразітам. Днём ён спіць, а ноччу забаўляецца, слухае патэфонныя пласцінкі, ходзіць па піўных. Не раз ён падымаў у доме скандал, біў вокны і нават маці. Але маці ўсёроўна аберагае свайго «хлопчыка».

Такой маці можна сказаць: сама вінавата. Але ці дапаможа гэта справе? І зноў паўстае пытанне: чаму школа не прывіла Мікалаю працоўныя навыкі? Чаму дасюль ніхто не ўмяшаўся ў сямейныя справы грамадзянкі П.? Чаму таварышы Мікалая, комсамольская арганізацыя не заклікалі яго да парадку? Мусіць таму, што і яны кіруюцца тым-жа правілам: «Наша хата з краю».

Справа выхавання дзяцей і моладзі — гэта не толькі асабістая справа бацькоў, гэта — грамадская, дзяржаўная справа. Таму ў тыя сем'і, дзе выхаванне дзяцей пастаўлена дрэнна, павінны заглядваць прадстаўнікі грамадскіх арганізацый і дзяржаўных органаў. Школа-ж абавязана накіроўваць увагу грамадскасці на такія сем'і. Вельмі важна, каб была ўзнята роля бацькоўскіх камітэтаў пры школах. Бацькоўскія камітэты абавязаны прыцягваць грамадскую ўвагу да хваравітых з'яў у сямейным выхаванні.

Міма сігналаў антымаральных паводзін моладзі не павінны праходзіць комсамольскія арганізацыі. Трэба стварыць адзіны грамадскі фронт, каб ніводзін факт парушэння грамадскага парадку не застаўся без уздзеяння на вінаватага.

# ГУМАР І САТЫРА

Тарас ЖЫГАЛКА




Мал. А. Волкава.

Федзя Столікаў стаў сакратаром камітэта комсамола. Быў ён хлопец своеасаблівы. Часамі, калі ў яго пыталіся пра што-небудзь спрэчнае, ён усміхаўся, нібы хацеў сказаць: «Што, самі не можаце здагадацца?» А потым вымаўляў нешта аўтарытэтнае, накшталт: «К-гыхы-м-хм!», і глыбокадумна гаварыў:

— Калі што, дык чаму-ж, вядома, можна зрабіць і так і гэтак... Аднак, улічваючы некаторыя абставіны, пра якія я не ўпаўнаважаны тут гаварыць, так сказаць, з вышэйшых меркаванняў, думаю, што няцяжка прыйсці да дыяметральна-процілеглага вырашэння ўзнятага тут пытання. Таму я раю стварыць камісію па далёваму разгляду гэтага і выцякаючага з яго пытанняў.

Яшчэ Федзя любіў гаварыць прамовы на нарадах. Звычайна ён браў слова ў самым канцы, пасля таго, як ужо выступіў кіруючы работнік. Нічога! Затое прамова яго бывала хоць заключным, але надта моцным акордам крытыкі.

Гады са два Федзя хадзіў у актывістах, пакуль нарэшце хтосьці ўзяў і выказаў такую думку:

— А чаму Федзю Столікава не вылучыць на кіруючую работу? Таварыш за справу хварэе. Трэба паспрабаваць.

Парада была прынята, і Федзю вылучылі на пасаду сакратара камітэта комсамола.

Федзя горача ўзяўся за работу. Два разы на дзень у камітэце збіраліся «лятучкі». У канцы рабочага дня кожны з членаў камітэта павінен быў пісаць справаздачу за дзень. Сам Федзя то сядзеў, замкнуўшыся на ключ у кабінеце, то бегаў да Кузьмы Іванавіча або Івана Кузьміча ўзгадняць розныя пытанні.

— У нас існавала анархія ў вырашэнні найважнейшых пытанняў. Я ўкараню тут прынцыповую практыку, — гаварыў ён пры гэтым і прыводзіў у пацверджанне сваёй праваты тры або чатыры цытаты.

Адразу было праведзена мноства розных мерапрыемстваў, нарад, пасяджэнняў, злётаў, прынята шмат пастаноў, узгоднена безліч пытанняў. Успамянем, аднак, самае апошняе мерапрыемства, якое, праўда, да канца «правярнуць» Федзю так і не ўдалося.

Аднойчы пасля абеду да яго ў кабінет зайшоў манцёр з тэлефонным апаратам пад пахай.

— Вось, Фёдар Савіч, здаецца, вам нехапае апарата, — сказаў ён.

— Малайчына! — узрадаваўся Столікаў. — Разумееш, нам працаваць цяжка, проста нельга без тэлефона. Два апараты на ўвесь камітэт! Хіба тут наладзіш сувязь? Пры тым, у такі час, калі неабходна аператыўнасць, калі мае слова павінен чуць штохвілінна кожны...

— Дык я ўмомант вас падключу, — заспяшаўся манцёр.

Федзя спыніў:

— Не трэба спяшацца, таварыш манцёр. У спешцы заўсёды могуць быць памылкі. А пытанне гэта вельмі важнае. Апарат — для нашага апарата! Так? Каму ён больш патрэбен — вырашым на дэмакратычнай аснове. Тут без нарады нічога не зробіш. Пакінь яго на стале. А як толькі будзе прынята рашэнне, мы адразу-ж паведамім тэлефонаграмай.

Манцёр паставіў апарат і вышаў з пакоя. Федзя устаў, прайшоўся з кутка ў куток і толькі пасля гэтага націснуў бліщчасты гузік электрычнага званка. За фанернай перагародкай званок залівіеў, быццам трамваі на скрыжаванні вуліц.

У кабінет адразу з'явілася тэхсакратар Маша.

Гледзячы ў падлогу (Федзя ніколі не глядзеў на падначаленых, калі аддаваў распараджэнні), ён загадаў збіраць усіх на нараду і тут-жа стаў накідваць тэзісы для выступлення.

Як толькі ўсе сабраліся, Федзя пачаў падрыхтаваную прамову.

— У мяне няма часу спыняцца на ролі тэлефона ў нашай рабоце. Я толькі прывяду адзін красамоўны прыклад. Для таго, каб сабраць звесткі, колькі за апошнія тры гады было зроблена домікаў пералётным птушкам, спатрэбілася-б не менш трох дзён для ўсяго нашага калектыва. У сувязі-ж з наяўнасцю тэлефона, Маша забяспечыла збор звестак за 5 гадзін, што ў сем і дзве дзесятых раза хутчэй... Што мы маем на сённяшні дзень? На сённяшні дзень нам выдзелены дадаткова яшчэ адзін апарат. Перад намі стаіць неадкладная задача вырашыць пытанне аб месцы ўстаноўкі яго з мэтай максімальнай і інтэнсіўнай яго эксплуатацыі. А таму загадваю да заўтра выказаць з гэтага поваду свае меркаванні і ўнесці адпаведныя прапановы. Мне здаецца, што зараз наладжваць абмен думкамі нямэтазгодна, таму прашу прыступіць да справы.

Але нарада была яшчэ не скончана, як у кабінет зайшоў манцёр.

— Што патрэбна? — запытаўся адміністрацыйным голасам Столікаў.

Манцёр падышоў да стала, узяў апарат і, кладучы яго ў сумку, сказаў:

— Памылка вышла. Ён не вам быў прызначаны. Так што прабачце...

... Вось як закончылася апошняе мерапрыемства Федзі Столікава.



Пімен ПАНЧАНКА

## *Прычына*

ЖАРТ

Пятым сыночкам усцешана маці, —
Кніжак, газет стала многа у хаце.
Токар адменны, шмат зарабляе,
Кніжку ці дзве кожны дзень ён купляе.
Маці шчаслівая сынам любуецца,
Толькі ў апошні час крыху турбуецца:
Што за прычына
Гэткая ў сына —
Кніжкі купляе
Ды мала чытае?
Убачыла маці нядаўна кіёск,
Сын да кіёска нібыта прырос.
А у кіёску *сядзела прычына* —
З чорнай касой маладая дзяўчына.
Раптам чамусьці ад кніг сын адбіўся
І табакурам заўзятым зрабіўся.
(А не цягнула-ж да курыва змалку!)
Кашляе, паліць штохвілі запалкі,
Цягне штодня пачкі тры «Беламора»,
Дома запасу ўжо цэлыя горы...
Маці маўчала, нічога не радзіла:
Можа дзяўчына чарнявая здрадзіла?
Неяк ішла паўз ларка з папяросамі,
Глянула: тая! Яна... чарнакосая...
Сэрца трывогаю ўміг ахапіла:
Што як яе перакінуць на піва?
Трэба-ж ёй будзе выконваць планы,
Значыць, сынок кожны дзень будзе п'яны?
Хоць і вялізная матчына хата,
Покуль расселяцца — ў ёй цеснавата:
Пяць-жа сыноў ды чатыры нявесткі!
Ну, а паколькі трывожныя весткі —
Хай-жа нявестка з'яўляецца пятая!
Гэта ўсё-ж лепш, чым гарэлка праклятая.

Уладзімір КОРБАН



# СУСТРЭЧА

У МТС быў невялікі інтэрнат,
Жыло ў ім хлопцаў камсамольцаў трое.
І вось, вясною акурат,
Дзяўчаты побач пасяліліся ў пакоі,
Якія скончылі ветэрынарны інстытут
І працаваць рашылі тут.
Вядома, што у першы-ж вечар
Наладжана была суседская сустрэча —
Дзяўчаты к хлопцам забрылі на аганёк.
«Здаровенькі былі! — сказала Каця. —
Жывем мы побач з вамі ў інтэрнаце
Вось цэлы ўжо дзянёк.
Пара-ж знаёміцца, суседзі, пачынаці!»
Суседзі рады. Зроблен першы крок:
Вядомы прозвішчы, імя названы,
Прысесці госцейкам прапанавана.



Размова палілася ў той-жа час
Пра працу, пра жыццё, пра ўмовы.
«Жывем нішто!» — уставіў слова
Шыракаплечы слесар Апанас.
«Але жывеце бруднавата...» —
Заўважылі дзяўчаты.
«А хіба-ж мы у гэтым вінаваты?
Дырэктар за парадкам не глядзіць.
Была тут прыбіральшчыца старая,
Ды захварэла, дома ўсё сядзіць,
А новай ён не прызначае.
Дык вось, у нас ніхто й не прыбірае».
«Так, так! — падтакнулі астатнія усе. —
Калі захочацца напіцца,
Дык ходзім з кубкам да крыніцы:
Вадзіцы нам ніхто не прынясе!»
«А вы-б не з кубкам, а з вядром хадзілі па вадзіцу
Не трэ' было-б і на дырэктара ківаць.
Нарэшце,
Няцяжка ўжо й пакой падмесці.
Што-ж, давядзецца нам суседзяў ратаваць.
Дзе венік? Дзе вядро? — Пакуль ачуняе старая,
Вас, бедных, смецце пахавае».
Суседзям вочы некуды было схаваць.

---

А хіба-ж так ніколі не бывае?
Прывыкне іншы на гатовым жыць,
А каб што-небудзь для сябе зрабіць —
І пальцам ён не паківае.



# ВЫДАТНЫ ЧЭШСКІ КАМПАЗІТАР

**Да 50-годдзя з дня смерці А. Дворжака**

Шматгадовыя непарыўныя сувязі злучаюць нацыянальныя музычныя культуры рускага і чэшскага народаў. Прагрэсіўныя дзеячы чэшскай музыкі вучыліся на ўзорах творчасці рускіх кампазітараў, як узбагачаць свае оперы, сімфоніі, песні вялікімі вызваленчымі ідэямі, высокароднымі пачуццямі любві да сваёй Радзімы, народа.

Вось чаму М. І. Глінка атрымаў у Чэхіі прызнанне, як «вялікі заснавальнік славянскай opernай школы» ў цэлым, а не толькі рускай. Зразумела і тое, чаму прыезд Балакірава і Чайкоўскага ў Прагу ў якасці дырыжораў спектакляў і канцэртаў рускай музыкі ператварыўся ў народныя ўрачыстасці, дэманстрацыю любві чэшскага народа да ўсяго рускага.

Не менш пераканаўчым прыкладам узаемнай увагі і сувязей паміж рускай і чэшскай музычнымі культурамі з'яўляецца вялікая педагагічная, выканаўчая і кампазітарская дзейнасць у Расіі цудоўных чэшскіх музыкантаў: Напраўніка, Авранека, Сука, Лауба, Шэўчака, Паля чэка, Прыбіка і другіх — дырыжораў Марыінскага і Вялікага опернага тэатраў, прафесараў Пецярбургскай і Маскоўскай кансерваторый, салістаў інструменталістаў і спевакоў.

Адным з найбольш папулярных чэшскіх кампазітараў яшчэ ў дарэвалюцыйнай Расіі і ў нашай савецкай дзяржаве з'яўляецца Антанін Дворжак. Палымяны патрыёт сваёй Радзімы, шчыры прыхільнік рускай культуры і музыкі, блізкі прыяцель П. І. Чайкоўскага, Антанін Дворжак належыць да тых кампазітараў чэшскага народа, чыя творчасць з'яўляецца гордасцю не толькі нацыі, але і ўсёй сусветнай культуры.

Як і другі вялікі чэшскі музычны класік — Бедржых Сметана, празваны «чэшскім Глінкам», Дворжак у сваёй творчасці на першы план вылучаў вобразы народа, які змагаецца за сваю свабоду і нацыянальную незалежнасць. Глыбокае, арганічнае адчуванне народнасці, ясная і выразная нацыянальная музычная мова, драматычная ўсхваляванасць мелодый і вобразаў, шчырасць і непасрэднасць іх перадачы — вось тыя якасці, якія характарызуюць творчае аблічча А. Дворжака.

Пачаўшы з дзевяці год іграць на скрыпцы ў вясковым аркестры, А. Дворжак толькі ў 1857 годзе стаў прафесійна вывучаць музыку ў Пражскай арганнай школе, дзе рыхтаваліся музыканты для царкоўных служб. Гэта не задаволіла юнака, і ён пачаў самастойна вывучаць узоры сусветнай музычнай класікі, пісаць уласную музыку. З'яўляюцца яго першыя інструментальныя і вакальныя творы. Антанін Дворжак становіцца на шлях прафесіянальнага музыканта: кампазітара і артыста аркестра чэшскага нацыянальнага тэатра, педагога і дырыжора.

Звыш сарака год ствараў вялікі чэшскі кампазітар сваю цудоўную музыку. Ім напісана дзесяць опер, звыш пяцідзесяці сімфанічных твораў, велізарная колькасць буйных і дробных інструментальных п'ес, рамансаў, хораў, песень, танцаў, апрацовак народных мелодый і іншых твораў розных жанраў. І ва ўсёй сваёй творчасці А. Дворжак праявіў сябе кампазітарам-рэалістам, вялікім дэмакратам і гуманістам.




**Фотаздымак, падараваны А. Дворжакам П. Чайкоўскаму.**

Сусветную вядомасць і любоў атрымалі славутыя «славянскія танцы» Дворжака. З лепшых канцэртных эстрад свету гучаць яго «Гусіцкая ўверцюра» «Багатырская песня», «Голуб», інструментальныя канцэрты, фартэпіянныя п'есы, сімфонія «З новага свету». Цудоўная музыка Дворжака натхняе прагрэсіўнае чалавецтва на барацьбу за свае ідэалы.

Антанін Дворжак памёр 1 мая 1904 года. Пяцідзесяцігоддзе з дня смерці вялікага кампазітара наша краіна адзначае цеснай дружбай з чэшскім народам, песняром жыцця якога быў Дворжак, а таксама шырокай прапагандай яго творчасці, усенародным ушанаваннем памяці выдатнага кампазітара.

**І. ІНІЧ.**

**МІНСК НАВЕДАЛА ГРУПА ЧЭХАСЛАВАЦКІХ АРТЫСТАЎ.** На здымку: **Інструментальны ансамбль пасля выканання на канцэрце серэнады А. Дворжака.**

Фото К. Якубовіча.



## Юныя тэхнікі

Амаль кожны дзень пасля ўрокаў вучні Гомельскай чыгуначнай сярэдняй школы № 27 ідуць у фізічны кабінет і майстэрню. Тут яны робяць прыборы і наглядныя дапаможнікі, будуюць авіяцыйныя і марскія мадэлі.

«Будучыя канструктары» — так называюць у школе гурткоўцаў. Гурток існуе ўсяго толькі трэці год, а зроблена ўжо нямала. Дзесяцікласнікі Міхаіл Слабадаў, Марат Краўчанка і Валеры Лебедзеў пабудавалі аэрадынамічную трубу і мадэль рэактыўнай турбіны. Бездакорна працуе электраэразійны станок, які змайстравалі гурткоўцы. Ён прабівае ў метале адтуліны з дакладнасцю да 0,01 міліметра. Эдуард Русакоў і Уладзімір Лайхтман разам са сваімі сябрамі зрабілі тэлескоп. З яго дапамогай можна наглядаць нябесныя свяцілы. Дакладна дзейнічае мадэль электрамагнітнага тэлеграфа.

Нядаўна школьнікі завяршылі збудаванне мадэлі электрычнай чыгункі. Справа гэтая аказалася нялёгкай, яна патрабавала больш года працы. Але затое чыгунка дзейнічае, як сапраўдная: уключыш рубільнік, і па сталёвых рэйках імклі ва бяжыць маленькі электравоз з вагончыкам. Юныя чыгуначнікі ўлічылі ў сваёй рабоце дасягненні навейшай тэхнікі ў чыгуначнай справе.

Немалыя дасягненні і на рахунку радыёаматараў. Яны мантыруюць дэтэктарныя і лямпавыя прыёмнікі, разам з марскімі мадэлістамі будуюць караблікі, якія кіруюцца па радыё. Часта школьнікі слухаюць перадачы свайго ўласнага радыёвузла. На гэтым вузле ўсё зроблена рукамі саміх гурткоўцаў.

Заняткі ў гуртку дапамагаюць вучням глыбей засвоіць праграмны матэрыял. Аб гэтым наглядна гаворыць той факт, што ў гурткоўцаў па фізіцы толькі добрыя і выдатныя адзнакі. Навыкі, набытыя ў гуртку, дапамагаюць юнакам і дзяўчатам лягчэй выбраць сабе будучую прафесію, ацаніць свае схільнасці.

Г. ПЕКУРОЎСКІ.

## У Гродзенскім музычна-педагагічным вучылішчы

На адной з прыгожых і ціхіх вуліц Гродна, якая носіць імя Леніна, стаіць вялікі двухпавярховы будынак. Тут знаходзіцца музычна-педагагічнае вучылішча — самая маладая навучальная ўстанова вобласці. Вучылішча рыхтуе кваліфікаваных выкладчыкаў музыкі, спеваў і кіраўнікоў мастацкай самадзейнасці для сярэдніх школ.

Увесну вучылішчу спаўняецца два гады, а яшчэ праз два гады адбудзецца першы выпуск. За гэты час будучыя настаўнікі музыкі павінны авалодаць агульнаадукацыйнымі дысцыплінамі ў аб'ёме сярэдняй школы і шэрагам спецыяльных дысцыплін: педагогікай, гісторыяй і тэорыяй музыкі, методыкай спеваў, тэхнікай дырыжыравання, харазнаўствам, інструментазнаўствам, методыкай навучання ігры на музычных інструментах, сальфеджыо. У залежнасці ад індывідуальных схільнасцей навучанне вядзецца па класу фартэпіяна, скрыпкі, баяна і домры.

Авалоданне майстэрствам ігры на фартэпіяна абавязкова для ўсіх вучняў.

Вучылішча мае ўсё неабходнае для плённай вучобы: абсталяваныя класы-кабінеты для індывідуальных заняткаў і падрыхтоўкі заданняў, разнастайныя інструменты, метадычныя кабінеты, бібліятэку музычнай літаратуры.

Музычнай адукацыяй кіруюць вопытныя педагогі В. В. Зайцава, Е. А. Цыта, П. А. Радаліцкі і маладыя педагогі Т. М. Янова, Т. Я. Клачко і другія.

Сярод вучняў — шмат здольных юнакоў і дзяўчат. Валянціна Філіпава яшчэ ў дзяцінстве страціла бацькоў. Яна — выхаванка Альберцінскага дзіцячага дома Слонімскага раёна. Зараз Валянціна вучыцца на першым курсе па класу фартэпіяна. Яе адзнакі — толькі «добра» і «выдатна». Уладзімір Алясюк да паступлення ў музычнае вучылішча працаваў зваршчыкам на Гродзенскім велазборачным заводзе і адначасова вучыўся ў вячэрняй школе. Вольныя хвіліны ён аддаваў ігры на скрыпцы. Зараз Ул. Алясюк — студэнт другога курса.

Калі-ж гутарка заходзіць аб лепшых баяністах вучылішча — называюць камсамольца Мар'янэ Шагунэ. Ён добра чытае ноты, па-майстэрску выконвае народныя і класічныя творы. Упартай, настойлівай працай заваяваў ён гэтыя янасці.

Але будучыя выкладчыкі музыкі павінны не толькі ўмець іграць на адным з інструментаў, яны павінны таксама быць кіраўнікамі хора. У час практычных заняткаў яны авалодваюць майстэрствам дырыжыравання, вучацца чытаць нескладаныя партытуры, працаваць з хорам.

Вучні шмат чытаюць, знаёмяцца з жыццёвым і творчым шляхам лепшых рускіх і заходнееўрапейскіх кампазітараў. Вялікі ўдзел прымаюць яны ў акадэмічных канцэртах, выступаюць на вечарах мастацкай самадзейнасці, нярэдка наведваюць свой падшэфны калгас «Чырвоная зорка» Гродзенскага раёна.

Гродзенскае музычна-педагагічнае вучылішча — яркі доказ клопатаў партыі і ўрада аб нашай таленавітай савецкай моладзі.

Ю. ТУРЭЦКІ.



На здымку: **Уладзімір Алясюк і Зоя Гаўрылік рыхтуюцца да чарговых заняткаў. Ім акампаніруе педагог Тацяна Якаўлеўна Клачко.**

Фото В. Косціна.



**Любяць музыку, песні і танцы маладыя рабочыя Мастоўскага фанернага завода Гродзенскай вобласці.** На здымку: **выступленне хора і аркестра ў заводскім клубе.**

Фото А. Перахода. (Фотахроніка БЕЛТА.)

ПАРАДЫ ФОТААМАТАРАМ

## ЭКАНАМІЧНЫ УНІВЕРСАЛЬНЫ ПРАЯВІЦЕЛЬ ДЛЯ ФОТАПАПЕРЫ

Фотааматары А. Кісялёў і В. Шавель з Бабруйска просяць параіць ім, якім праявіцелем лепш за ўсё карыстацца для праяўлення фотапаперы.

З вялікай колькасці рэцэптаў, якія даюцца ў літаратуры па фатаграфіі і правераны ў практыцы, можна рэкамендаваць метол-гідрахінонавы праявіцель, які прыгатаўляецца з чатырох загадзя падрыхтаваных раствораў. Як мы пабачым ніжэй, гэты праявіцель не толькі дае магчымасць атрымаць самую розную ступень кантраснасці здымка, але з'яўляецца вельмі эканомным, захоўваецца доўгі час.

На дыстыляванай, снегавой, дажджавой або добра праваранай вадзе, тэмпература якой павінна быць да 30—35 градусаў, падрыхтоўваюць наступныя чатыры элементарныя растворы:

№ 1 — метола 20 г, сульфіта крышт. 130 г, вады да 1 літра;

№ 2 — гідрахінона 20 г, сульфіта крышт. 170 г, вады да 1 літра;

№ 3 — паташу 200 г, вады да 1 літра;

№ 4 — бромістага калія 10 г, вады да 100 куб. см.

Падрыхтоўка рабочага раствору робіцца змешваннем паміж сабою розных порцый гэтых элементарных раствораў, з наступным разбаўленнем вадой. Робіцца гэта згодна табліцы (гл. унізе).

Прывядзем прыклад карыстання табліцай.

Трэба атрымаць праявіцель з сярэдняй, звычайнай, перадачай кантрасту. За ўмоўную частку элементарнага раствору прымаем 25 куб. см. Тады, карыстаючыся сярэдняй графой табліцы, зліваем у ванначку: 50 куб. см. раствору № 1, 75 куб. см. раствору № 2, 125 куб. см. раствору № 3 і 250 куб. см. вады. Да атрымамага такім чынам 500 куб. см. рабочага раствору дадаем 50 кропляў раствору № 4, і праявіцель зроблены.

На першы погляд прыгатаванне чатырох раствораў здаецца доўгай справай. Але ўсякі фотааматар пераконваецца, што, затраціўшы адзін раз поўгадзіны на прыгатаванне раствораў, ён можа карыстацца імі на працягу месяца і нават некалькіх месяцаў. Зразумела, што ён цалкам ухваліць гэты спосаб работы.




У дадатак, у мэтах дасягнення звышэканомнасці, раім не ставіцца абыякава да спосабу захавання раствораў і праявіцеля, якім ужо карысталіся, але якія яшчэ годны для наступнай работы. Для папярэджання акіслення праявіцеля пры судакрананні з паветрам недастаткова звычайнай пробкі. Рэкамендуем заліваць раствор 4—5-міліметровым слоем вадкага неарганічнага масла (напрыклад, вазелінавага). Зліванне раствору робіцца з дапамогаю сіфоннай трубкі або спецыяльнага краніка, як гэта паказана на малюнку.

Сагнутыя шкляныя трубкі «А» папярэджваюць пападанне ў шкляныя пылу. На канцах шкляных трубак «Б» надзяваюцца кавалкі гумавых трубак, сціснутых зажымамі.

Калі раствору ў шкляніцы робіцца так мала, што разам з ім у сіфон можа папасці і масла, трэба даліць шкляніцу свежым растворам. Ліць яго можна не баючыся масла таму што пасля перамешвання масла зноў усплыве на паверхню.

| Элементарныя растворы | Колькасць умоўных долей элементарных раствораў | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| № 1 (метол) | 4 | 4 | 4 | 3 | 2 | 2 | 2 | 1 | — |
| № 2 (гідрахінон) | — | — | 1 | 2 | 3 | 5 | 7 | 10 | 14 |
| № 3 (паташ) | 3 | 5 | 5 | | 5 | 5 | 4 | 4 | 3 |
| Вады | 13 | 11 | 10 | 10 | 10 | 8 | 7 | 5 | 3 |
| № 4 (10% раствор бромістага калія ў кроплях на кожныя 100 куб. см. атрыманага праявіцеля) | 6 | 8 | 13 | 7 | 10 | 16 | 12 | 20 | 30 |
| Ступень кантраснасці праявіцеля | ← мяккі | | | | нармальны | | | | кантрасны → |

# ШАХМАТЫ

Пад рэдакцыяй майстра спорту
А. СУЭЦІНА

### ТВОРЧАСЦЬ СОВЕЦКІХ ГРОСМАЙСТРАЎ

## Марк Тайманаў

Малады ленінградзец Марк Тайманаў — адзін з вядучых маладых гросмайстраў.

З дзяцінства займаецца М. Тайманаў шахматамі і музыкай, паспяхова спалучаючы гэтыя заняткі. Поспехі яго ў музыцы такія-ж добрыя, як і ў шахматах. Займаючыся ў Ленінградскім палацы піянераў у сучаснага чэмпіёна свету М. Батвінніка, Тайманаў у 1939 годзе атрымаў першы разрад па шахматах. Праз паўтара года ён атрымаў званне кандыдата ў майстры. Тады яму было 15 год. Адначасова паспяхова займаўся ў музычнай школе. У 1945 годзе дзевятнаццацігадовы комсамолец Тайманаў заваёўвае пачэснае званне майстра спорту па шахматах. А праз два гады ён паспяхова заканчвае Ленінградскую кансерваторыю па класу фартэпіяна. З гэтага часу ў творчасці Тайманава пачынаецца новы перыяд. Ён робіцца вядомым піяністам і адначасова пачынае штурм «гросмайстарскіх подступаў». Намаганні не прайшлі дарэмна, і ў 1952 годзе на міжнародным турніры ў Стакгольме Тайманаў заваёўвае званне гросмайстра.

Для творчасці Тайманава-шахматыста характэрна выключна хуткая ацэнка пазіцыі, высокая шахматная тэхніка. Тайманаў няўхільна павышае свае тэарэтычныя веды ў галіне дэбюта. Немалую карысць прынёс яму ўдзел у вялікіх міжнародных турнірах у Стакгольме і Цурыху. Гэта дало яму вялікі турнірны вопыт, неабходны для першакласнага гросмайстра. У XX пяршынстве СССР Тайманаў дзеліць 1—2 месцы з чэмпіёнам свету М. Батвіннікам. У XXI пяршынстве, якое нядаўна закончылася, Тайманаў дзеліць 2—3 месца з маладым майстрам Карчным. (Вельмі роўныя і вельмі высокія спартыўныя вынікі!)

Прыводзім партыю, характэрную для творчасці Тайманава, іграную ў XXI пяршынстве СССР. У ёй няма бліскучых ходаў, але ўся партыя прасякнута глыбокай стратэгіяй і ўсе ходы звязаны паміж сабой.

Праціўнікам М. Тайманава быў кіеўскі майстар А. Баннік, які іграў белымі.

Пасля 15 хода белых (15. Фh3) стварылася цікавая пазіцыя, якая сустракалася раней у партыі Авербах — Тайманаў у Цурыхскім турніры 1952 года.



Паследавала 15. ...К:b3! (Значнае ўзмацненне варыянта вынік вялікай падрыхтоўкі С. Авербаха. Тайманаў іграў 15. ...Ф:e5? і пасля 16. С:e6! апынуўся пад сакрушальнай атакай.) 16. К:b3 Ф:e5, 17. Ка5 b4!, 18. Кс4 Фс7, 19. Ф:h5 g6!, 20. Фе2 bc, 21. b3 0—0, 22. Лае1 Лаd8 (У выніку камбінацыйных ускладненняў высветлілася, што чорныя, якія мелі два сланы ў добрай пазіцыі і моцны націск на ферзевы фланг і цэнтр, знаходзяцца ў лепшым, чым праціўнік, становішчы. Тайманаў дакладна выкарыстоўвае сваю перавагу.) 23. Cf4 Сс5, 24. Крh1 Фе7, 25. Се5 Сd4, 26. Лf4 С:f5!, 27. Ф:е5 Лd5, 28. Фс3 Фg5, 29. Фg3 Лfd8, 30. Ф:g5 Л:g5 (Размен ферзёў не робіць лягчэйшай пазіцыі белых, таму што чорныя ўмела скоўваюць фігуры праціўніка і паступова захопліваюць важныя пункты ў яго лагеры.) 31. Лf2, Крf8, 32. Крg1 Кре7, 33. g3 Лgd5, 34. Лfe2 g5, 35. a4 h5, 36. Ке5 f6, 37. Кd3 e5 (Пешкі каралеўскага фланга чорных пачынаюць рух, забіраючы ў каня апорныя пункты ў цэнтры.) 38. Крf2 a5, 39. Кс1 Са6, 40. c4 Лd4, 41. Ка2 Лb8, 42. Кс1 (Белыя зусім бездапаможныя.) 42. ...Сb7, 43. Ле3 Сс6, 44. Ка2 Лd2+!, 45. Л1е2 Л:е2 +, 46, Кр:е2 С:а4! 47. ba Лb2+, 48. Крf3 Л:а2, і чорныя лёгка рэалізавалі сваю матэрыяльную перавагу.

---

# Шашкі

пад рэдакцыяй майстра спорту
М. ШАВЕЛЯ

### ЦІКАВАЯ КАМБІНАЦЫЯ

**Белыя простыя:** e3, f2, f4 g3(4), **Чорныя дамкі:** c1, e1, e7; **простыя:** c7, f6, h6(6).
**Белыя пачынаюць і выйграваюць.**



У пазіцыі, прыведзенай на дыяграме, матэрыяльная перавага чорных не выклікае сумненняў. Аднак ў гэтай пазіцыі белыя могуць выйграць, зрабіўшы непрыкметную на першы погляд камбінацыю: яны ахвяруюць тры шашкі і шашкай, якая засталася, бяруць тры дамкі і дзве шашкі чорных.

Прапануем чытачам рашыць гэтую цікавую камбінацыю.

---



# У НУМАРЫ



На першай старонцы вокладкі: **Раніца Першага мая.** Фотаэцюд А. Дзітлава.
На чацвёртай старонцы вокладкі: **У калгасным садзе.** Фотаэцюд В. Лупейкі.



---

# Красворд

Склаў Б. Янпольскі.

**Па гарызанталі:** 5. Сродак пераправы. 8. Сталіца саюзнай рэспублікі. 9. Горад у Францыі. 10. Вартасць прадмета. 12. Провад, які ўлаўлівае электрамагнітныя хвалі. 14. Майстэрня мастака або фатографа. 15. Жывы арганізм. 17. Фарба. 18. Натуральнае хімічнае або механічнае злучэнне. 20. Горны ланцуг. 21. Частка сутак. 22. Вораг раслін. 24. Раённы цэнтр у БССР. 26. Расліна, на якую лётаюць пчолы. 29. Газ — злучэнне вадарода і азота. 30. Асоба, якая разглядае спрэчкі паміж установамі. 31. Увоз. 32. Няправільнае абвінавачанне. 35. Вялікая рака. 38. Працэс вырабу тканіны. 39. Спартыўны інвентар. 40. Забава для дзяцей.

**Па вертыкалі:** 1. Матэматычная функцыя вугла. 2. Знаўца краю. 3. Святочная гарматная стральба. 4. Фокус. 5. Сібірскае блюда. 6. Механічны інструмент лесаруба. 7. Музычны інструмент. 11. Месца выступлення цыркавых артыстаў. 13. Прамежак часу. 14. Байніца. 16. Спартсмен. 18. Алгебраічнае паняцце. 19. Беларускі кампазітар. 23. Бура. 25. Спартыўная ўзнагарода. 27. Жыхар Еўропы. 28. Горад на Азоўскім моры. 29. Рака на Каўказе. 33. Збудаванне. 34. Аптычнае шкло. 36. Алень. 37. Дрэва.

### АДКАЗЫ НА КРАСВОРД, ЗМЕШЧАНЫ Ў № 4.

**Па вертыкалі:** 2. Амок. 3. Казка. 4. «Вянок». 5. Рытм. 6. Платок. 8. «Кабзар». 11. «Беларусь». 12. Шамякін. 14. Кандрат. 17. Рамантызм. 18. Караневіч. 19. Панчанка. 20. Паўлінка. 23. Сатыра. 24. Лірыка. 27. Талаш. 28. Байка. 31. Рыбка. 32. Нізок. 33. Арэса. 34 Вірта.

**Па гарызанталі:** 1. Танк. 4. Верш. 7. «Алеся». 9. Іліко. 10. Тыпаж. 13. Палескі. 15. Колас. 16. Шаман. 17. Раманюк. 21. «Асілак». 22. Балада. 25. Кацярына. 26. Інверсія. 29. Ажаеў. 30. Драма. 31. Раман. 35. Шэдэўр. 36. «Ірынка». 37. Астап. 38. Скетч.


Рэдактар Аляксей КУЛАКОЎСКІ.

Рэдакцыйная калегія: Алесь АСІПЕНКА, Дзмітры БАЛЬШОЎ, Янка БРЫЛЬ, Юры ВАСІЛЬЕЎ, Іван ГРАМОВІЧ (намеснік рэдактара), Міхась ЛЫНЬКОЎ, Сяргей СЕЛІХАНАЎ, Максім ТАНК, Георгі ШЧАРБАТАЎ.

«Молодость»
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал ЦК ЛКСМБ.
На белорусском языке.

Афармленне В. Грамыкі.
Тэхрэдактар І. Шаршульскі.
Карэктар Л. Таўлай.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 66. Тэлефоны: рэдактара 93-648, намесніка рэдактара — 93-592, адказн. сакратара — 93-985, аддз. навукі і навучаючайся моладзі — 93-892, аддз. рабочай і сельскай моладзі — 93-985, аддз. ілюстрацыі—93-892, аддзел пісем—93-854.

Здадзена ў набор 13.IV. 54 г.
Падпісана да друку 6. V. 54 г.
Фармат паперы 70×108⅛. Друк. арк. 4. (У др. арк. 65.000 зн.). Вуч.-выд. арк. 7. Тыраж 20.000 экз.

Цана 2 руб.

АТ 04016. Заказ № 312.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР, Мінск, праспект Сталіна, 105.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.







# У ПАХОДЗЕ

**Юныя фотааматары расказваюць**

Збіраюцца школьнікі ў паход па роднаму краю, праводзяць піонерскі касцёр або якое-небудзь іншае цікавае мерапрыемства, — заўсёды пры гэтым прысутнічаюць юныя фотааматары. Пільнае вока фотаапарата нястомна адлюстроўвае багатае прыгодамі школьнае жыццё. Юныя фотааматары нашай рэспублікі дасягнулі вялікіх поспехаў у сваёй рабоце. Іх фотаздымкі вызначаюцца не толькі ўдалай кампазіцыяй, але і глыбокім зместам.



На гэтай старонцы мы змяшчаем чатыры здымкі членаў фотагуртка Мінскага палаца піонераў.

«На возеры Нарач» — так называецца фотаэцюд.

«У гуртку юных краязнаўцаў» — назваў свой фотаздымак Барыс Двочкін.

«На прывале» — гэта фотаздымак Ларысы Буцэвіч.

«У паходзе» — здымак М. Сарокі.

